№ 32 (821) 28 жніўня 2013

www.nn.by




# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Аднoўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у



## Прывет табе, жыццё на волі!

«НН» друкуе апошнюю частку турэмнай аповесці Дашкевіча ў дзень яго вызвалення. Старонка 10.




## Яшчэ $100 — і будзем як у Літве

Па чыстым заробку Беларусь абагнала Сербію, Румынію і Балгарыю. Старонка 5.

# Масква афігела




На фота: Баўмгертнер на расцяжцы ў «Амерыканцы».

У Мінску пасля сустрэчы з Мясніковічам быў арыштаваны гендырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баумгертнер. **Старонка 3.**

### Войска

Адтэрміноўкі на тры гады не існуе

Пяць памылковых поглядаў на прызыў. **Старонка 6.**



### Грамадства

«Танцорку могуць выкрасці альбо прадаць»

Беларуска з Лівана расказала пра ўмовы працы. **Старонка 6.**



### Гісторыя

У палоне 1990-х

Рэцэнзія на кнігу Сяргея Навумчыка «Дзевяноста першы».

**Старонка 13.**




### In memoriam

Арлен Кашкурэвіч

Сышоў класік беларускага мастацтва.

**Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Масква

**У Мінску пасля сустрэчы з Мясніковічам быў арыштаваны гендырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баўмгертнер.**

Іншымі словамі цяжка перадаць тую гаму пачуццяў, якая напоўніла крамлёўскае кола. Хаця афігелі не толькі ў Маскве. У Мінску таксама былі пад уражаннем. Тым больш, што апошнія жнівеньскія дні былі асабліва багатыя на навіновыя нагоды. Да Лукашэнкі прыляцеў прэзідэнт Шры-Ланкі (на БТ называлі востраў «чайнай дзяржавай» — добра, што не «бананавай»), чакалася вызваленне з турмы маладафронтаўца Зміцера Дашкевіча, і тут, на табе, арышт Баўмгертнера.

Следчы камітэт аператыўна распаўсюдзіў наступную заяву: «Расследуюцца крымінальныя справы, распачатыя Генеральнай пракуратурай па ч.3 арт.424 «Злоўжыванне ўладай і службовымі паўнамоцтвамі» КК (ад 3 да 10 гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без канфіскацыі) у дачыненні да службовых асоб ЗАТ «Беларуская калійная кампанія» (ЗАТ «БКК»): старшыні назіральнай рады — Уладзіслава Баўмгертнера, члена назіральнай рады — Алега Пятрова, першага намесніка генеральнага дырэктара — Канстанціна Саладоўнікава, намесніка генеральнага дырэктара па фінансах — Ігара Яўстратава, начальніка фрахтавага аддзела — Дзмітрыя Самойлава і іншых асоб».

Потым пачатковая інфармацыя стала абрастаць падрабязнасцямі. Напрыклад, стала вядома, што ў Мінск мэнэджар прыязджаў на асабістае запрашэнне прэм'ер-міністра Міхаіла Мясніковіча. У найлепшых традыцыях беларускай гісторыі. Некалі Яраслававічы гэтак сама завабілі Усяслава Чарадзея, каб паланіць.



ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ПРЕМЬЕР-МИНИСТР РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

Минск, 23 августа 2013 года

Уважаемый Владислав Артурович,

Приглашаю Вас 26 августа 2013 года в г.Минск для рассмотрения вопросов, связанных с деятельностью ЗАО "Белорусская калийная компания".

Михаил Мясникович

### І Дварковіча

Зрэшты, маштабы Баўмгертнера і Усяслава цяжка супаставіць. Здаецца, ну арыштавалі б у Маскве дырэктара МАЗа ці БелАЗа. Непрыемна, але не смяротна. Але ж! Разам з Баўмгертнерам у Мінск запрашалі фігур нашмат больш маштабных. Такое самае запрашэнне атрымаў асноўны ўласнік «Уралкалія» мільярдэр Сулейман Керымаў, кіраўнік Рады дырэктараў кампаніі Аляксандр Валошын (былы кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Расіі) і віцэ-прэм'ер — дзяржаўны чыноўнік — Аркадзь Дварковіч. Але не прыехалі. Няўжо і іх у Мінску чакала б затрыманне?

Прозвішча Баўмгертнера загучала ў беларускіх медыях пры канцы ліпеня, калі «Уралкалій» абвясціў пра «развод» з «Беларускай калійнай кампаніяй». Фактычна, аб'явіўшы гэтым вайну, «Уралкалій» стаў дэмпінгаваць на сусветным рынку. Калій для Беларусі — гэта не толькі дзевятнаццаты элемент табліцы Мендзялеева, але яшчэ і другая па значнасці крыніца экспартных прыбыткаў. На першым месцы — рээкспарт расійскіх нафтапрадуктаў.

Супрацоўніцтва ў «Беларускай калійнай кампаніі» будавалася на аснове таго, што экспартныя продажы абодвух вытворцаў павінны ажыццяўляцца праз адзіную таваправодную сетку. Спачатку «Уралкалій» абвінавaціў беларусаў, што гэтае базавае правіла было парушана. А ўжо цяпер з беларускіх дзяржаўных тэлеканалаў і газет пачулася тое самае абвінавачанне на адрас расейцаў. Маўляў, праводзілі аперацыі праз афшорныя прадпрыемствы ў Швейцарыі, адцягнулі беларусаў ад кантактаў з кліентамі. Увогуле ж называлі гэтую справу «рэйдарскім захопам сусветнага значэння».

Найбольш шышак паляцела ў Сулеймана Керымава. Маўляў, менавіта ён задумаў дэмпінг, каб акцыі «Уралкалія» пайшлі ўніз, а ўжо потым скупіў бы іх сам у іншых уласнікаў «па дзяшоўцы».

### 100 мільёнаў

БТ агучыла лічбу стратаў, якія нібыта панесла беларуская дзяржава ў выніку дзейнасці падследных мэнэджараў «Уралкалія»: 100 мільёнаў даляраў. Дарэчы, у гэтай магічнай лічбе (дзесяці стольки за год атрымліваюць 3—4 зорныя футбалісты керымаўскага «Анжы») і заключаецца адзін з выхадаў з сітуацыі. Страты кампенсуюцца, Баўмгертнер выходзіць з турмы. Усе шчаслівыя і задаволеныя.

Гэта, вядома, калі Расія захоча праглынуць крыўду. Найвышэйшыя чыноўнікі суседняй дзяржавы пакуль выказваюцца досыць агульнымі фразамі. Цяжка зрабіць

**Баўмгертнера можа абараняць толькі беларускі адвакат**

«Па нашых законах расійскі адвакат не можа абараняць у судзе расійскага грамадзяніна. Ён можа выступаць толькі ў якасці юрыста-дарадцы», — паведамілі ў Мінскай гарадской калегіі адвакатаў.

Інтарэсы арыштаванага будзе абараняць Ірына Бурак, якая, дарэчы, была абаронцай Анатоля Лябедзькі і міліцыянта Аляксандра Класкоўскага пасля Плошчы.

**Сурыкаў: Улады Беларусі дыскрэдытавалі сябе арыштам Баўмгертнера**

Пасол Расіі ў аўторак меў сустрэчу з выканаўцам абавязкаў генеральнага пракурора Мікалаем Куклісам. У Генпракуратуры паабяцалі правесці праверку.

«Я такой міжнароднай практыкі наогул не ведаю: калі ўлада запрашае, а потым праваахоўныя органы затрымліваюць. Напэўна, запрашэнне з'яўляецца свайго роду гарантыяй бяспекі, і дзеянні потым праваахоўных органаў у дадзенай сітуацыі не зусім карэктныя ў дачыненні да ўласнай улады. Улады Беларусі дыскрэдытавалі сябе арыштам Баўмгертнера», — сказаў дыпламат.

Сустрэчу з супрацоўнікамі пасольства Баўмгертнера пакуль не дазволілі.

## Сцісла

### Русіфікуюць метро

У мінскім метро гучаць новыя абвесткі пра правілы карыстання метрапалітэнам: цяпер іх абвяшчаюць не на станцыях, а ў вагонах падчас прыпынку. Аднак абвяшчаюць іх выключна па-расейску.

Прапанаваць пераагучыць правілы карыстання метрапалітэнам можна, даслаўшы ліст па адрасе 220030, Мінск, пр. Незалежнасці, 6, дырэктару КУП «Мінскі метрапалітэн» Расціславу Станіслававічу Юрэню.

### БХД сабрала 4200 подпісаў за вызваленне ксяндза Лазара

БХД плануе праводзіць збор подпісаў за ксяндза Лазара і надалей, а таксама прапануе ўсім каталіцкім вернікам і неабыякавым людзям далучацца да кампаніі. Айцец Лазар ад 1 чэрвеня знаходзіцца ў зняволенні, і пакуль незразумела ў чым дакладна яго абвінавачваюць.

### Вольга Карач: Я гатовая стаць моцным лідарам

«Яшчэ 2013 год, а не 2015-ы. Усё вельмі залежыць ад жадання беларускага народа і падтрымкі народа. Усё, што мы робім сёння — гэта не для прэзідэнцкай кампаніі», — так лідар кампаніі «Наш дом» Вольга Карач сказала аб магчымых прэзідэнцкіх амбіцыях.

### На магіле Малевіча пабудавалі элітны дом

Улады Падмаскоўя тлумачаць гэта тым, што месца не мела ахоўнага статуса. Знакаміты мастак беларускага паходжання быў пахаваны ля свайго ўлюбёнага дуба, але месца пахавання было знішчана ў 1941 годзе. У 1950-я на месцы магілы з'явілася поле, і яе арыенціры былі страчаны.

### «Ляпісы» выпускаюць беларускамоўны альбом

Гурт «Ляпіс Трубяцкой» выпускае альбом «Грай» — гэта будзе першая кружэлка гурту, запісаная цалкам на беларускай мове. У альбом увойдзе 12 песняў, дзесяць з якіх ужо выходзілі на дысках «Ляпісаў», і дзве абсалютна новыя. Адзіны канцэрт з беларускай праграмай адбудзецца 30 лістапада ў Вільні, на Siemens Arena.

**ЗП, ЮУ**

## Апытанне на nn.by

### Ці незалежная Беларусь?

| | | |
|---|---|---|
| Так, незалежная цалкам | 56 | 5% |
| Не, мы цалкам васалы Расіі | 606 | 50% |
| Мы ў чымсьці незалежныя, а ў чымсьці залежныя | 552 | 45% |

Усяго прагаласавала 1214.

## Падзяка

«Сардэчны дзякуй усім, хто павіншаваў мяне з 60-м днём нараджэння, нават калі зрабіў гэта толькі ў думках», — з такімі словамі Уладзімер Арлоў звярнуўся да ўсіх, хто павіншаваў яго праз газету і сайт НН. Пісьменнік адзначыў юбілей 25 жніўня.

## Самае чытанае на nn.by за 21-27 жніўня

1 Сценка на сценку: у Брэсце армяне пабіліся з беларусамі. Адзін беларус патануў

2 Затрыманая за хабар чыноўніца Мінюста пазбаўляла адвакатаў ліцэнзій за палітыку

3 Зніклая маладая мама, якую шукалі інтэрнаўты, знойдзеная забітай

4 Беспрэцэдэнтны выклік Расіі: пасля сустрэчы з Мясніковічам арыштавалі гендырэктара 5 «Уралкалія» Баўмгертнера

5 Інга Хрушчова: Я сышла з БТ па маральных меркаваннях

6 Хто такі Уладзіслаў Баўмгертнер?

7 На БТ паказалі затрыманне Уладзіслава Баўмгертнера: стаіць на расцяжцы

8 «Дзікі» адпачынак на Нарачы: без выхаду да вады, але з чыстым паветрам

9 Хімічная зброя ўжыта ў прыгарадах Дамаска

10 Новыя абвесткі ў мінскім метро — па-расейску

# афігела

выснову, як далей пойдзе мяч, які апынуўся на іх полі.

«Гэта не лезе ні ў якія рамкі», — сказаў першы віцэ-прэм'ер Ігар Шувалаў.

Намеснік міністра замежных справаў Расіі Рыгор Карасёў пасля сустрэчы з беларускім паслом зазначыў, што «арышт можа паўплываць на графік расійска-беларускіх кантактаў на найвышэйшым узроўні».

У Міністэрстве эканамічнага развіцця «не выключаюць мер у адказ на арышт гендырэктара «Уралкалія».

### На кану рэпутацыя Мядзведзева

Былі размовы, што, магчыма, гэтае затрыманне адбылося са згоды Пуціна (выказваліся меркаванні, што такім чынам змагаюцца кланы расійскага прэзідэнта і прэм'ер-міністра Мядзведзева), але гэта, здаецца, не мае пад сабой ніякіх падставаў. Афіцыйныя заявы з Масквы, хутчэй, гавораць пра адваротнае. Рэакцыя не была імгненнай проста таму, што ніхто не чакаў такога нахабства. Галовы расійскага кіраўніцтва больш затлумленыя эканамічным шантажом Украіны («мытнасаюзныя» Беларусь і Казахстан не далучыліся да ціску на Кіеў), нарастаннем напружанасці з ЗША, а тут яшчэ Беларусь падкідае праблемы.

**Валошын: Я патрабую вызвалення Баўмгертнера**

«Старшыня назіральнай рады не мае абсалютна ніякіх службовых паўнамоцтваў, якімі ён мог бы злоўжыць. Рэальным кіраўніком кампаніі з'яўляецца генеральны дырэктар, які заўсёды намінаваўся беларускім бокам. Некалькі тыдняў таму генеральны дырэктар БКК быў прызначаны на адну з найвышэйшых пасад у Беларусі, а менавіта на пасаду намесніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта краіны [Валерый Іваноў — «НН»]. Гэта, думаю, азначае, што вынікі дзейнасці гэтай кампаніі і стан спраў у ёй вельмі высока ацэньваюцца найвышэйшым кіраўніцтвам Беларусі. У сувязі з гэтым абвінавачванні ў службовых злачынствах на адрас Баўмгертнера выглядаюць проста недарэчна», — заявіў старшыня рады дырэктараў «Уралкалія».



**Жарт**

Мы, беларусы, з братняю Руссю
Разам шукалі калію збыт.
Нафты не далі, калій пакралі,
Дайце нам хоць бы новы крэдыт.

Агенцтва Reuters паведаміла, што прэм'ер Дзмітрый Мядзведзеў быў у ярасці ад навіны пра арышт Баўмгертнера. Быццам бы гэта ён браў удзел у арганізацыі сустрэчы Баўмгертнера з Мясніковічам, і тут такі паварот. Гэта ставіць пад сумнеў ягоную рэпутацыю. Як могуць кціравацца «акцыі» прэм'ера, які не можа адстаяць аднаго з топ-мэнэджараў расійскай эканомікі?

Баўмгертнер узначальваў — і паспяхова — буйную расійскую кампанію. Ёсць усе падставы меркаваць, што «Уралкалій» цесна звязаны з блізкім колам Пуціна і Мядзведзева.

### Беларусь аслабляе залежнасць

Адстойванне сваіх інтарэсаў у «калійнай вайне», як і адмова ад продажу МАЗа ці непрызнанне незалежнасці Паўднёвай Асеціі і Абхазіі, — праявы паступовага аслаблення залежнасці Беларусі ад Расіі. Палітычны аналітык Аляксандр Класкоўскі перасцерагае ад хуткіх высноваў.

«У канфлікце Лукашэнка адчувае сябе як рыба ў вадзе. Ён рызыкуе, тым больш, што хутка прэзідэнцкія выбары, а сітуацыя ў эканоміцы не вельмі добрая. Але так было і ў 2010, калі Лукашэнка рассварыўся перад выбарамі з расійскім кіраўніцтвам. Апазіцыйныя кандыдаты кінуліся ў Маскву, але за тыдзень да выбараў канфлікт быў вычарпаны і Лукашэнка атрымаў падтрымку», — кажа Класкоўскі.

Цікава, што адну з першых скрыпак у калійным канфлікце іграў Віктар Лукашэнка. У маі кіраўнік дзяржавы стварыў перамоўную камісію па ўрэгуляванні спрэчных момантаў экспарту калійных угнаенняў. Групу тую ўзначалілі Віктар Лукашэнка, старшыня КДБ Валерый Вакульчык і старшыня «Банка развіцця» Сяргей Румас.

**Коммерсантъ: Баўмгертнеру сказалі, што трэба дадатковая праверка, «бо ён можа правозіць з сабой наркотыкі»**

У Беларусь Баўмгертнер прыляцеў у панядзелак раніцай без вялікай дэлегацыі. Сустрэча з Мясніковічам была прызначаная на 11-ю.

Гутарка, па словах крыніцы «Коммерсанта», знаёмага з ходам сустрэчы, доўжылася каля гадзіны і «была далёкая ад канструктыўнай». «Па сутнасці, гэта быў маналог прэм'ера, які вінаваціў асабіста Уладзіслава Баўмгертнера і «Уралкалій» у тым, што яны руйнуюць саюзную дзяржаву», — сказаў суразмоўца «Коммерсанта». Але, запэўніў ён, ні пра якія крымінальныя абвінавачанні размова не ішла. Адразу пасля сустрэчы топ-мэнэджар накіраваўся ў аэрапорт для вылету ў Маскву.

Па словах суразмоўцы «Коммерсанта», падчас мытнага нагляду Баўмгертнеру паведамілі, што патрэбна дадатковая праверка, «бо ён можа правозіць з сабой наркотыкі». Адразу пасля гэтага топ-мэнэджара затрымалі і павезлі ў СІЗА.

«Відавочна, што Міхаіл Мясніковіч быў у курсе, сустрэча з ім выкарыстоўвалася як прынанка», — упэўнены суразмоўца «Коммерсанта», адзначаючы, што «санкцыянаваць такія дзеянні мог толькі адзін чалавек — прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка». А 15-й Следчы камітэт краіны афіцыйна абвясціў аб затрыманні.

Выглядае, што менавіта вынікі працы гэтай камісіі леглі ў аснову скандалу.

### На расцяжцы

У дзень затрымання Баўмгертнеру адразу былі выстаўленыя абвінавачанні. Людзі пачалі жартаваць, што да вечара, можа, і прысуд вынесуць. Прысуду не было, затое паказалі кадры затрымання мэнэджара, а таксама відэа з турмы КДБ «Амерыканкі».

Выглядала ўсё дэманстратыўна брутальна. Баўмгертнера трымалі на расцяжцы, з вывернутымі далонямі, адзявалі кайданкі. Нібыта перад імі серыйны забойца ці тэрарыст, а не чалавек абвінавачаны ў эканамічным злачынстве. Для Расіі гэта ўдвая дзіка, бо за час прэзідэнцтва Мядзведзева была прынятая пастанова, якая не дазваляе трымаць пад вартай да прысуду людзей, падазраваных у эканамічных злачынствах. Дарэчы, менавіта таму на волі заставаўся Аляксей Навальны.

Магчыма, з арыштам Баўмгертнера мы становімся сведкамі новай з'явы. Раней у закладнікі бралі выключна прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі, каб потым весці перамовы з Захадам. Цяпер закладнік узяты з іншага боку. Такога яшчэ не было.

**Зміцер Панкавец**

# Хто такі Уладзіслаў Баўмгертнер?

Яго лічаць адным з найбольш таленавітых расійскіх мэнэджараў. Баўмгертнеру **41 год**, ён са Свярдлоўска.

Скончыў Уральскі тэхнічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «электрычныя станцыі», мае таксама дыплом Кінгстанскай школы бізнэсу (Вялікабрытанія).

Казаў, што, нягледзячы на перабудову, паспеў папрацаваць інжынерам. Потым будаваў кар'еру ў міжнароднай кампаніі ABB. «Быў цікавы час, 90-я, была магчымасць пагледзець, як працуе заходні мэнэджмент, — занурыцца ў новую карпаратыўную культуру. Шмат чаму навучыўся», — казаў Баўмгертнер у адным з інтэрв'ю.

Апошнія дзесяць гадоў Баўмгертнер працаваў на «Уралкалій» (з перапынкам на працу ў «Сільвініце»). Спачатку быў камерцыйным дырэктарам, пасля — прэзідэнтам і сябрам рады дырэктараў, ад 2011 — генеральны дырэктар.

У Беларусі мэнэджараў такога ўзроўню і такіх маладых проста няма.

Кажа, знайшлі яго для «Уралкалія» хедхантары (паляўнічыя за мазгамі). «Ва «Уралкаліі», у прынцыпе, не бяруць па знаёмстве ці блаце. Гэтым усім мы вядомыя на рынку. У нас вельмі лёгка зрабіць кар'еру. Калі ты скіраваны на вынік, прыкладаеш усе намаганні, калі ў цябе хапае кампетэнцыі і асабістых якасцяў, то дзверы для цябе адкрытыя», — казаў Баўмгертнер.

Калі працаваў у «Сільвініце», жыў у Салікамску. Падчас працы ва «Уралкаліі» жыве ў Беразняках (горад каля Пярмі).

Жонка часцей заставалася ў Маскве (бо атрымлівала другую адукацыю), але прыязджала на выходныя ў Беразнякі.

«Уласны бізнэс ствараць не хачу. Мне больш падабаюцца сур'ёзныя, маштабныя задачы. Нічога падобнага на «Уралкалій» я ствараць не змагу».

**ЗП**

# У хабары падазраюць супрацоўніц Мінюста

Якія **звальнялі адвакатаў**, што баранілі ўдзельнікаў Плошчы.

21 жніўня супрацоўнікамі КДБ была арыштаваная начальніца Упраўлення адвакатуры і ліцэнзавання юрыдычнай дзейнасці Галіна Грышкавец, а таксама яе намесніца Наталля Беразоўская.

Чыноўніц узялі на гарачым проста падчас атрымання хабару. Сума не самая ўнушальная — тысяча даляраў. Аднак гаворыцца, што гэта не першы такі выпадак.

«Гэтая якраз тыя асобы, якія пазбаўлялі ліцэнзій адвакатаў па справах пасля Плошчы-2010», — адзначае праваабаронца Таццяна Равяка.

Ліцэнзіі страцілі Павел Сапелка (абаронца Аўтуховіча і Саннікава), Алег Агееў (які бараніў Міхалевіча), Тамара Сідарэнка (Някляева), Ганна Бахціна (Ірыны Халіп).

Іншым жа стварылі такія ўмовы працы, што яны былі вымушаныя сысці з адвакатуры. Як Зміцер Лаеўскі — адвакат Бяляцкага.

«Наколькі я ведаю, ім знайшлі працу больш аплачаную, ім адвакацкая ліцэнзія ўжо нецікавая. Яны перыядычна даюць нейкія каментары, выступаюць, думаю, іх дзейнасць добра аплачваецца, мяркуючы па інфармацыі з інтэрнэту», — так каментавала спадарыня Грышкавец справу аб звальненнях усяго пару месяцаў таму.

«На гэтыя словы адзін з пазбаўленых ліцэнзіі адвакатаў сказаў, што лепш бы яна не плявала ў калодзеж, з якога яшчэ, магчыма, напіцца трэба будзе», — расказвае Таццяна Равяка.

«Яны сталі ахвярамі той жа самай палітыкі прэвентыўнага цкавання», — гаворыць Павел Сапелка.

Галіну Грышкавец ужо замянілі. На сайце Мінюста пазначана, што выконваючай абавязкі начальніцы Упраўлення цяпер з'яўляецца Жанна Міхалевіч.

**Зміцер Панкавец**


**Галіна Грышкавец.**


**Наталля Беразоўская.**



**Вольга Класкоўская асуджаная на 8 гадоў турмы**

Стакгольмскі суд прызнаў грамадзянку Беларусі Вольгу Класкоўскую вінаватай у замаху на забойства свайго мужа Гёкана Безгіна і прыгаварыў яе да васьмі гадоў турэмнага зняволення. Класкоўская таксама павінна выплаціць грашовую кампенсацыю Безгіну ў памеры 110 тысяч шведскіх крон.

Пра затрыманне Вольгі Класкоўскай стала вядома 2 красавіка. Яе затрымалі ў горадзе Ханінгу на поўдзень ад Стакгольма і змясцілі ў турму Окерсберга за 30 км на паўночны ўсход ад шведскай сталіцы.

Жанчына мае права абскардзіць рашэнне суда.

## Насельніцтва Беларусі павялічваецца ўпершыню за 20 гадоў

Перадусім за кошт мігрантаў, але **расце і нараджальнасць**.

Колькасць насельніцтва Беларусі расла да 1994 года, калі дасягнула максімуму. Тады нас было 10 243 500 чалавек — гістарычны рэкорд.

З таго часу — як адрэзала. Нараджальнасць скарачалася, а смяротнасць расла. У сярэдзіне 2000-х штогод вымірала па 60—70 тысяч чалавек. Для параўнання, столькі жыве ў Светлагорску, Рэчыцы ці Жодзіне.

Калі б дынаміка засталася ранейшай, праз дваццаць гадоў вымерла б яшчэ больш за 200 тысяч беларусаў...

Падтрымка з'явілася з нечаканага боку. У Беларусі павялічылася колькасць мігрантаў. Згодна з афіцыйнай статыстыкай, летась у краіну прыехала жыць 18 тысяч чалавек, а з'ехала — амаль 9 тысяч.

Такі перакос адбываецца за кошт метадалогіі падліку — калі эмігрант не «выпісваецца» са сваёй кватэры, ён эмігрантам не лічыцца. А вось замежнік, які набывае жыллё ў Беларусі і рэгіструецца ў ім, аўтаматычна запісваецца ў беларускае насельніцтва.

Адкуль едуць гэтыя «новыя беларусы»? Найбольш — з Расіі (47% імігрантаў) і Украіны (13%).

Калі паглядзець на ўзрост імігрантаў, то атрымліваецца неверагодная з'ява.

Кожны шосты чалавек прыезджы... гэта малое дзіця!

Штогод немаўлятаў і малых (0–4 гады) прывозілі па 600 чалавек, а летась — ажно 3 тысячы. Ці не памылка гэта? У Белстаце інфармацыю пацвярджаюць: усё слушна. Прычым такая карціна нібыта фіксуецца па ўсёй краіне.

Павелічэнне колькасці мігрантаў супала з ростам нараджальнасці. Яна знаходзіцца на самым высокім узроўні за часы кіравання Аляксандра Лукашэнкі.

Колькасць народжаных дзетак яшчэ не можа цалкам кампенсаваць колькасць памерлых. Аднак сітуацыя выпраўляецца. Гэтаму дапамагае і рост працаглясці жыцця — пенсіянеры жывуць усё даўжэй.

Год таму, у жніўні 2012, колькасць насельніцтва Беларусі дасягнула абсалютнага мінімуму — 9 457 500 чалавек. У параўнанні з тым часам беларусаў паболела амаль на 4 тысячы чалавек. Гэта як насельніцтва мястэчка накшталт Івянца.

**Ягор Марціновіч**

**Насельніцтва Беларусі**

1994 — 10 243 500 чалавек
2000 — 10 002 500 чалавек
2006 — 9 630 400 чалавек
2012 — 9 465 200 чалавек
Жнівень 2012 — 9 457 500 (абсалютны мінімум)
Жнівень 2013 — 9 461 500

**Цытата**



**Кандрусевіч: Набажэнствы павінны быць па-беларуску**

«Набажэнства ў Беларусі павінна весціся на роднай мове, а для гэтага неабходныя адпаведныя пераклады рэлігійнай літаратуры на беларускую мову. Праца ў гэтым напрамку ўскладняецца і тым, што рэлігійная тэрміналогія яшчэ недастаткова поўна распрацаваная ў беларускай мове», — адзначыў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч на адкрыцці ў Мінску з'езда славістаў.

## Хімічная зброя ўжыта ў прыгарадах Дамаска

Колькасць ахвяраў **вымяраецца сотнямі**.

Паводле інфармацыі медыкаў, не менш за 494 чалавекі загінулі ў часе хімічнай атакі на прыгарады Дамаска Хамурыя, Сакба, Дума, аль-Батна, Муадамія. Ракеты з зарынам абрынуліся на гэтыя бастыёны паўстання каля 3-й гадзіны ранку.

У мясцовых клініках груды целаў з тыповымі вынікамі атручвання нервова-паралітычным газам: бледныя, попельныя твары, няма цялесных пашкоджанняў, пена каля рота.

Сярод пацярпелых — шмат жанчын і дзяцей. На думку аналітыкаў, улады хочуць застрашыць насельніцтва апазіцыйных анклаваў і змусіць яго пакінуць гэтыя раёны. Такім чынам, паўстанцы засталіся б без заплечча.

Афіцыйны Дамаск катэгарычна аспрэчвае інфармацыю пра ўжыццё хімічнай зброі. Вялікабрытанія і ЗША прыгрозілі даць «сур'ёзны адказ» сірыйскім уладам, калі высветліцца, што Дамаск нясе адказнасць за маштабную хімічную атаку.

**Сяргей Гезгала**



# Яшчэ $100 — і будзем як у Літве

**По чыстым заробку Беларусь абагнала Сербію, Румынію і Балгарыю.**

Велічыня сярэдняга заробку ў Беларусі ў чарговы раз абнавіла рэкорд. У ліпені ён дасягнуў $617.

Ці многа гэта ў еўрапейскіх маштабах? «Наша Ніва» сабрала апошнія звесткі аб заробках у 20 краінах Усходняй і Цэнтральнай Еўропы. Патэнцыйна яны знаходзяцца ў адной вагавай катэгорыі з Беларуссю. Змагацца з краінамі Заходняй Еўропы ці са скандынавамі нам пакуль некарэктна. Напрыклад, у Нарвегіі сярэдні месячны заробак падступіў да 5000 еўра.

## Сачыце за рукамі

Лічбы, якія агучвае Белстат, падаюцца насельніцтву маларэальнымі. Маўляў, хто гэта ў малых гарадах зарабляе больш за $600? Смех дый годзе.

Месяц таму «Наша Ніва» падлічыла: сярэдні заробак у 108 са 118 раёнаў насамрэч не дацягваў да сярэдняга па краіне.

Аднак беларуская методыка падлікаў не адрозніваецца ад той, што прымяняецца ў іншых краінах. Напрыклад, статыстычная служба Чэхіі шчыра прызнаецца, што дзве траціны насельніцтва мае менш за сярэдні заробак. Але таксама чуе смех ад шараговых чэхаў: не можа такога быць, каб выходзіла амаль па 1000 еўра на чалавека.

## Нета і брута

Адзіная істотная розніца — велічыня падаткаў. Пры цяперашняй беларускай схеме асноўную нагрузку нясе працадаўца, ад налічанага заробку работніка на карысць дзяржавы адскубаецца ўсяго 13%. Гэта падаходны падатак і адлічэнні ў пенсійны фонд. Такім чынам, насамрэч у сярэднестатыстычнага беларуса на руках застанецца каля $540. Такую ж суму ад «бруднага» заробку забіраюць у Расіі, падобную — у Малдове.

Аднак у большасці іншых краін схема іншая, і большасць падаткаў вылічваецца непасрэдна з заробку. Напрыклад, у Босніі і Герцагавіне даводзіцца вярнуць дзяржаве ажно 36% ад налічаных грошай. У выніку ад немалых $850 (заробак-брута) у кішэні работніка рэальна застаецца толькі $545 (заробак-нета) — амаль як у Беларусі.

Траціну ад налічанага заробку вяртаюць у Венгрыі, Чарнагорыі, Македоніі... Самымі высокімі «бруднымі» грашыма ў постсацыялістычнай Еўропе могуць пахваліцца славенцы. Аднак з дэклараваных 1500 еўра насамрэч яны атрымліваюць 1000 еўра.

## Рэактыўныя статыстыкі

Яшчэ адно пытанне — аператыўнасць падлікаў. Адзінага стандарту ў Еўропе не існуе. Напрыклад, беларусы ўжо даведаліся пра свае ліпеньскія заробкі. Такія ж хуткія чарнагорцы і харваты.

А ў Чэхіі і Славакіі тым часам падлічылі дадзеныя за першы квартал. Пра албанцаў без смеху і не раскажаш. Там вызначыліся толькі з заробкамі сваіх дзяржаўных служачых, і тое толькі за 2012 год.

У адну табліцу давялося зводзіць дадзеныя за розны час. Аднак крытычнай памылкі ў гэтым няма. У адрозненне ад Беларусі, дзе заробак расце па загадзе штомесяц, у іншых краінах ён выглядае стабільным. У хлебны месяц можа трохі падрасці, а ў наступным, наадварот, апусціцца.

## Багацейшыя за беларусаў

Час перайсці да падсумавання. Паколькі ў многіх краінах са спісу ходзіць еўра, а ў іншых нацыянальная валюта прывязаная да агульнакантынентальнай, то і мы свае падлікі рабілі ў еўра. Аднак для нагляднасці прадублявалі іх і ў далярах, у адпаведнасці з актуальным курсам.

Нягледзячы на велізарныя падатковыя выплаты, Славенія застаецца самай багатай постсацыялістычнай краінай Еўропы, апярэджваючы былых суседзяў па Югаславіі. Прычым некаторых, як гаротная Македонія, ажно ўтрая.

Услед зладжанай групай ідуць паспяховыя Эстонія, Чэхія і Харватыя, дзе «чысты» заробак падбіраецца да $1000 у эквіваленце.

Польшча і Расія ідуць нага ў нагу, аднак калі браць «чысты» заробак па сталіцах, то Масква істотна апярэджвае Варшаву ($1500 супраць $1300). Для параўнання, для мінчукоў Белстат налічыў $700.

Нашыя балтыйскія суседзі па налічаным заробку адарваліся далёка ад Беларусі, аднак розніца ў падатках часткова «з'ядае» розніцу. Бракуе ўсяго $100—120, каб дагнаць суседзяў. Іншае пытанне, што такі скачок можа ў чарговы раз нахіліць, калі не паставіць на калені, лукашэнкаўскую мадэль эканомікі.

## Бяднейшыя нацыі

Малдова, Албанія і Украіна пастаянна знаходзяцца сярод аўтсайдараў. На іх узровень Беларусь скатвалася ў момант абвальнай дэвальвацыі. З паўгода таму нашы заробкі абышлі і найбяднейшую з краін Еўрасаюза — Балгарыю.

За кошт росту заробкаў за апошнія месяцы і нізкай падатковай базы беларусам удалося стаць багацейшымі за шэраг балканскіх краін — Македонію, Румынію і Сербію. Ненашмат наперадзе і Боснія.

Аднак ці хопіць у беларускага Нацбанка моцы, каб кантраляваць плаўную дэвальвацыю рубля, залежыць перадусім ад сітуацыі на рынку і палітычнай волі кіраўніцтва краіны.

**Ягор Марціновіч**




| № | Краіна | Чысты заробак (еўра) | Брудны заробак (еўра) | Актуальнасць падлікаў | Падатак | Чысты заробак (даляры) |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Славенія | 987 | 1495 | чэрвень 2013 | 34% | $1302 |
| 2 | Эстонія | 752 | 940 | сакавік 2013 | 20% | $976 |
| 3 | Чэхія | 731 | 949 | I квартал 2013 | 23% | $965 |
| 4 | Харватыя | 724 | 1049 | ліпень 2013 | 31% | $947 |
| 5 | Польшча | 644 | 895 | I квартал 2013 | 28% | $851 |
| 6 | Расія | 641 | 737 | чэрвень 2013 | 13% | $846 |
| 7 | Славакія | 615 | 789 | I квартал 2013 | 22% | $812 |
| 8 | Венгрыя | 511 | 786 | чэрвень 2013 | 35% | $674 |
| 9 | Латвія | 507 | 704 | сакавік 2013 | 28% | $658 |
| 10 | Літва | 492 | 647 | I квартал 2013 | 24% | $650 |
| 11 | Чарнагорыя | 470 | 712 | ліпень 2013 | 34% | $615 |
| 12 | Боснія і Герцагавіна | 420 | 656 | чэрвень 2013 | 36% | $554 |
| **13** | **Беларусь** | **410** | **471** | **ліпень 2013** | **13%** | **$536** |
| 14 | Сербія | 389 | 540 | чэрвень 2013 | 28% | $513 |
| 15 | Румынія | 359 | 499 | чэрвень 2013 | 28% | $474 |
| 16 | Македонія | 349 | 513 | май 2013 | 32% | $452 |
| 17 | Балгарыя | 315 | 404 | чэрвень 2013 | 22% | $416 |
| 18 | Украіна | 254 | 310 | чэрвень 2013 | 18% | $335 |
| 19 | Албанія | 228 | 288 | 2012 | 21% | $293 |
| 20 | Малдова | 201 | 234 | чэрвень 2013 | 14% | $265 |

# Адтэрміноўкі на тры гады не існуе

Пяць памылковых поглядаў **на прызыў у войска**.

Ад пачатку жніўня ў Беларусі абвешчаны чарговы прызыў. Да канца лістапада ваенкаматы будуць спрабаваць выканаць план па наборы каля 10 тысяч салдат. Многія прызыўнікі тым часам зробяць усё магчымае, каб не апынуцца на бліжэйшыя паўтара года ў казарме.

Іх досвед сістэматызаваны на сайце Белваенкамат.нет, дзе актывісты сабралі самыя распаўсюджаныя парушэнні працэдуры прызыву. Яны падкрэсліваюць, што змаганне за сваю «свабоду» вядуць толькі законным чынам, знаходзячы шчыліны ў законе «Аб вайсковым абавязку і ваеннай службе».

Іх досвед будзе цікавым для тых, хто рыхтуецца да паходу ў ваенкамат.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### У ваенкамат — толькі па позве

Адносіны з войскам пачынаюцца для юнакоў з атрымання позвы. Лянуючыся шукаць прызыўнікоў, прадстаўнікі ваенкаматаў, а часцяком і супрацоўнікі ЖЭСаў, раскідваюць позвы па паштовых скрынях. Да 2010 года заканадаўства прадугледжвала такі спосаб апавяшчэння.

Цяпер жа — позва выдаецца толькі пад распіску аб атрыманні. Прычым «на заўтра» выклікаць не могуць. Позву даюць не пазней за два дні да прызначанага тэрміну яўкі.

Дакумент імянны, таму падпісваць яго ні бацькі, ні суседзі не павінны.

### Медкамісія — толькі ў час прызыву

Мерапрыемствы прызыву могуць праводзіцца толькі ў тэрміны, вызначаныя прэзідэнцкім загадам. Праходжанне медыцынскай камісіі знаходзіцца ў спісе такіх мерапрыемстваў.

Таму калі прызыўнік не паспеў да 31 кастрычніка прайсці нейкія абследаванні, ён можа чакаць да наступнага прызыву. Дарэчы, ніякіх канкрэтных патрабаванняў да хуткасці абыходу спецыялістаў у заканадаўстве не прапісана.

Дарэчы, «зверка дадзеных», на якую часцяком запрашаюць юнакоў, таксама павінна адбывацца толькі падчас прызыву.

### Адтэрміноўка — толькі на год

Спіс хваробаў, з якімі служыць нельга, пастаянна змяняецца, прычым найчасцей скарачаецца. Таму не прайсці цяперашні агляд і абследаванне праз некалькі гадоў — дзве вялікія розніцы.

Юнакі, якія ўсё ж не прайшлі медыцынскую камісію, атрымліваюць на рукі ваенны білет. У ваенкамаце іх звычайна пры гэтым папярэджваюць: не забудзьцеся праз тры гады прайсці на паўторную медыцынскую камісію.

Гэта грубая памылка. Згодна з законам, адтэрміноўка па стане здароўя не можа перавышаць аднаго года.

Калі ж ваенкамат развітваецца з прызыўнікам «на тры гады» — то гэта ніякая не адтэрміноўка, а залічэнне ў запас. А гэта зусім іншы статус, іншыя правы і абавязкі.

### Ёсць білет на руках — ухілення быць не можа

Атрымаўшы так званую «трохгадовую адтэрміноўку», юнак больш не з'яўляецца прызыўніком. Шанцаў трапіць у войска, нават калі ён раптоўна паздаравее, — мінімум.

Згодна з законам, юнака могуць паклікаць на медыцынскую камісію і да заканчэння вызначаных трох гадоў. Вось толькі калі ён адмовіцца, пакараць фактычна не змогуць.

Прызыўніка, які не з'явіўся ў ваенкамат па падпісанай позве, могуць пасадзіць у турму на тэрмін да двух гадоў. А вось таго, хто залічаны ў запас, за гэта ж аштрафуюць на 200—300 тысяч рублёў. Калі ён прызнае віну, пакаранне будзе мінімальна магчымым. На сайце Белваенкамат.нет прыводзіцца ксеракопія такога рашэння суда.

### Ваенны білет — бестэрміновы

Яшчэ адна «страшылка» ад супрацоўнікаў ваенкамата — пратэрмінаваны ваенны білет. Маўляў, тэрмінова праходзьце медыцынскую камісію, інакш новы білет не выдадзім.

Аднак згодна з інструкцыяй аб парадку арганізацыі і вядзення вайсковага ўліку, ваенны білет — гэта бестэрміновы дакумент. Значыцца, нейкім чынам абнаўляць яго непатрэбна.

Падрыхтаваў **Ягор Марціновіч**

**Альтэрнатыўная служба**

Згодна з Канстытуцыяй Беларусі, парадак замены ваеннай службы на альтэрнатыўную вызначаецца законам. Закон «Аб альтэрнатыўнай службе» распрацоўваецца парламентам і будзе ўнесены на разгляд у кастрычніку.

# «Танцорку могуць выкрасці альбо прадаць»

**Беларуска з Лівана** расказала пра ўмовы працы на Бліжнім Усходзе.

Наталля (імя па просьбе зменена) працавала ў ліванскіх клубах, а затым выйшла там замуж. Для жанчыны інцыдэнт з выкраданнем беларускі Святланы Маркіяновіч сірыйскімі паўстанцамі стаў нечаканасцю.

— У Ліване ніколі і ні за што цябе нават у краму ні з кім не адпусцяць! Чувак мусіць заплаціць 50—100 даляраў. Пры гэтым бос клуба абавязаны запісаць нумары тэлефона і машыны, калі падвозяць. Сама дзяўчына не мае права ў аўто сядаць. Гэта значыць, бос альбо ведаў тых людзей, з якімі яна з'ехала, альбо ў яго ёсць нумары. Гэта па-першае.

Па-другое, пашпарт Светы павінен быць у боса таго месца, дзе яна працуе. Калі пашпарт у яго, як дзяўчына магла пераехаць мяжу? Калі дакумента ў яе няма, значыцца, ён яе прадаў.

Па-трэцяе, у Ліване ў цябе вольны час з 13.00 да 20.00. Калі спазняешся на 5 хвілін, табе пачынаюць тэлефанаваць і шукаць. А ёсць жа яшчэ эміграцыйная служба, якая прыходзіць і правярае ўсіх. Калі б яе не знайшлі, гэта скандал! Босу дасталося б. Ліван жа пра такі скандал не ведае.

**«Наша Ніва»: Навошта забіраюць пашпарты?**

**Наталля:** Каб дзяўчаты не спакусіліся на багатых ліванцаў, а працавалі. Калі пашпарты на руках, то можна на працу не выйсці. Вось і забіраюць, каб не было куды падзецца. Але клуб нясе 100-працэнтную адказнасць за кожную з дзяўчат.

**«НН»: Вы ведалі, дзе працавала Святлана?**

**Н:** Не, бо магла б расказаць больш. Я ведаю амаль усе клубы тут. Але не думаю, што яна працавала ў добрым месцы. Таму, магчыма, бос і прадаў яе. Але можа быць, што ёй прапанавалі грошы за відэа, а сама яна дзе-небудзь хаваецца.

**«НН»: Вас на гэтым відэа нічога не насцярожыла?**

**Н:** Надта белыя майкі. І ў дзяўчат валасы памытыя. Я тут, у Ліване, амаль кожны дзень галаву мыю праз спёку. Выглядае, што ім далі душ прыняць. Дзіўна.

**«НН»: Падобныя выпадкі ў Ліване прыгадваеце?**

**Н:** Я ўжо два гады тут. Выйшла замуж. І ў мяне шмат сяброўак. Я адпрацавала шэсць кантрактаў і нічога падобнага не бачыла. Нешта не складваецца — і ўсё. Мае сяброўкі таксама шакаваныя: як такое магло здарыцца. Уся справа ў пашпарце: калі дакумент у боса, магчыма, яе і выкралі.

Гутарыў **Сяргей Макарэвіч**

**In memoriam**

# «Ён стварыў магілёўскае тэлебачанне»

Памёр журналіст **Генадзь Суднік**.


БАЖ

У ноч на 24 жніўня ад раку лёгкіх памёр Генадзь Суднік. Зусім нядаўна ён на бальнічнай койцы адсвяткаваў 70-годдзе.

На пахаванне сабралася 150 чалавек, цела Генадзя Судніка было накрыта бел-чырвонабелым сцягам.

«Гэта быў бліскучы, інтэлігентны чалавек, — узгадвае сябар журналіста Анатоль Гуляеў. — Мы пазнаёміліся ў 1971, ён мяне ўразіў сваімі тэкстамі, манерай весці размову. Генадзь умеў апранацца, выбіраць касцюмы. Я дагэтуль не навучыўся так завязваць гальштук, як умеў ён».

«Генадзю прапанавалі стварыць тэлебачанне ў Магілёве, — узгадвае спадар Анатоль. — Ён жыў у Мінску, меў кватэру на Кальварыйскай, вялікія перспектывы ў працы, аднак ён быў творцам і стварыць што-небудзь сваімі рукамі ад пачатку для яго было цікавейшым. Ён кінуў перспектывы і кватэру і прыехаў у Магілёў. Стваралася магілёўскае тэлебачанне з цяжкасцю: я тады працаваў разам з Суднікам, мы хадзілі па інстанцыях, было ўражанне, што нікому, апроч нас, гэтае тэлебачанне непатрэбна. Суднік рабіў усё самастойна — ад падлогі ў рэдакцыі да набору супрацоўнікаў. У Магілёве не было прафесійных журналістаў, таму Генадзь узяў людзей, якія цікавіліся журналістыкай, і пачаў іх вучыць, таксама амаль з нуля».

Пасля сыходу з тэлебачання Генадзь Суднік выдаваў газету «Тыднёвік Магілёўскі», яна выходзіла на тарашкевіцы, але пасля яе выхад спынілі ўлады. Тады Суднік пачаў іззноў працаваць з маладымі журналістамі, вучыць іх.

«Я вельмі баяўся, што на пахаванні будзе мала людзей, — кажа Гуляеў. — Але на пахаванне прыйшло паўтары сотні чалавек, былі яго вучні, з усіх 20 раёнаў. Былі людзі з Гомеля. Рэч у тым, што для ўсіх нас Генадзь Суднік быў прыкладам сапраўды прафесійнага журналіста».

**Юрась Ускоў**

# Сценка на сценку: у Брэсце беларусы пабіліся з армянамі

Адзін хлопец патануў.

17 жніўня трое берасцейцаў каля клуба «Сіці» ўцягнуліся ў патасоўку з армянамі: заступіліся за хлопца. «Нехта з армян сядзеў у машыне з расійскімі нумарамі, — кажа Аляксандр, які ведае падрабязнасці ад знаёмага, удзельніка бойкі — самі яны не рашаюцца размаўляць з журналістамі. — Іншыя стаялі каля клуба. І гэтая група гасцей абразіла мясцовага хлопца. Патасоўку разнялі ахоўнікі. Магчыма, на гэтым бы ўсё і скончылася. Але аднаму з хлопцаў патэлефанаваў армянін з брэсцкай дыяспары. І прапанаваў разабрацца на наступны дзень на выратавальнай станцыі на рэчцы Мухавец.

У прызначаны час каля 15 берасцейцаў (ад 21 да 24 гадоў) прыйшлі, але з сабой нічога не бралі для самаабароны. Праз нейкі час на станцыі паказалася чарада аўтамабіляў. З іх выйшла каля 60 армянаў. Размовы не атрымалася. Удары пасыпаліся з усіх бакоў. Хлопцы кінуліся ўрассыпную. Яны сцвярджаюць, што ў спіну ім стралялі з пнеўматыкі. Нехта схочыў у ваду, нехта ў чароце схаваўся. Недалёка ад выратавальнай станцыі, метраў за сто, ёсць астравок. Жэня таксама кінуўся ў ваду, хацяў плаваў кепска. І патануў».

Аляксандр кажа, што ўсё адбывалася на вачах у выратавальнікаў, якія дзяжураць там кругласутказа. Яны на лодцы падплылі да вострава, каб выцягнуць хлопцаў. Выратавальнікі былі сведкамі і іншай карціны: недалёка стаяла машына супрацоўнікаў ППС, але яны не ўмешваліся.

«Калі прыехалі яшчэ дзве міліцэйскія машыны, армяне збеглі. У часе пагоні адна з машын трапіла ў несур'ёзную аварыю. Яе пасажыраў і затрымалі — чатырох чалавек. Уначы даставілі ў аддзяленне Ленінскага РАУСа яшчэ каля 20 чалавек.

Усе думалі, што Жэня напалохаўся і хаваецца. На наступны дзень вадалазы абшукалі дно вакол вострава, але не знайшлі. Армян вызвалілі за адсутнасцю складу злачынства. Раніцай 20 жніўня вадалазы з трэцяга разу знайшлі цела Жэні».

Пра Жэню вядома, што ён быў фанатам брэсцкага «Дынама». У фанацкіх колах у яго была мянушка Берсерк.

**Сяргей Макарэвіч**

**Афіцыйна**

«Следчым камітэтам праводзіцца праверка па факце смерці жыхара Брэста, які не даплыў да вострава на р. Мухавец. Папярэдне, прычына смерці — патапленне. Цялесных пашкоджанняў на целе няма», — паведаміла прадстаўнік СК Юлія Ганчарова.

СК таксама прыняў у вытворчасць матэрыялы праверкі па канфлікце. «У матэрыялах няма дадзеных пра тое, што была бойка. Цялесных пашкоджанняў ні ў кога не выяўлена. Канфлікт насіў бытавы характар. Акрамя таго, абодва бакі — жыхары Брэста», — заявіла Ганчарова.




**«Былі біты, але не пнеўматыка»**

На сайце «Вітрутальны Брэст» выказаўся армянін, які ведае сітуацыю на Мухаўцы. Па словах мужчыны, канфлікт адбыўся па віне беларусаў. 17 жніўня ў клубе беларус без дай прычыны стукнуў у твар армяніна. Адказваць на гвалт той не стаў. Па-за клубам сямёра беларусаў накінуліся і збілі другога каўказца, які заступіўся за свайго прыяцеля. Яму выбілі сківіцу, зламалі рабро. І «стрэлку» прызначыў беларус — нехта Фара. На выратавальнай станцыі сабраліся 15 агрэсіўных малойчыкаў, а на сустрэчу прыехалі каля 20 чалавек (толькі 6 армянаў). Пасля сваркі армяне, якія не вытрымалі абразаў, выхапілі біты, аднак ніякай пнеўматычнай зброі. Але бойка не пачалася — нехта выклікаў міліцыю. Усе кінуліся ўрассыпную.

## Вышук





**Мужчыны на фота** падазраюцца ў крадзяжах з кватэр Мінска. На адной з кватэр іх заспеў гаспадар, а яны выскачылі з акна 3 паверха. Затрымалі іх у бальніцы, куды звярнуліся па дапамогу. Хто пацярпеў ад дзейнняў гэтых людзей, звяртайцеся ў Фрунзенскае РУУС Мінска на: (029) 776-64-10, (017) 213-08-29, (017) 252-02-02.



Знікла **Назарава Надзея Фізулі**, 1981 года нараджэння. 6 ліпеня яна з'ехала з дома ў п. Замасточча Мінскага раёна і не вярнулася. 8 ліпеня родным адправіла смс, што знаходзіцца ў сяброўкі ў Мінску. Пасля гэтага тэлефон адключаны. Прыкметы: рост 155—165 см, вочы шэрыя, валасы чорныя з сівізной, радзімка каля правага вока. Хто ведае месцазнаходжанне зніклай, тэлефануйце ў выратавальна-пошукавы атрад «Анёл» на: (033) 666-68-56, (033) 666-60-33.

# Задушыў і расчляніў

Сварка маладых бацькоў скончылася трагедыяй.

27-гадовая Ганна Сардэчкіна знікла ўвечары 12 жніўня. Пра гэта паведаміў яе былы муж. Ён застаўся з іх чатырохгадовым сынам, а Ганна нібыта выйшла некуды. А затым яе мабільнік перастаў адказваць. Праз два дні мужчына сам і падаў заяву ў міліцыю пра знікненне. Але сам і стаў галоўным падазраваным.

«Падчас расследавання ён прызнаўся ў забойстве і ўказаў, дзе схаваў парэшткі забітай, якія знойдзены ў Цнянскім вадасховішчы і лесапаркавай зоне, якая прымыкае да яе», — паведаміў прадстаўнік УСК па Мінску Аляксандр Герасімаў. Мужчына пасварыўся з Ганнай, задушыў і расчляніў яе.

Падазраваны знаходзіцца ў ізалятары. Прызначана яго комплексная псіхолага-псіхіятрычная экспертыза. А гарадская адміністрацыя цяпер будзе вырашаць, з кім застанецца малалетні Артур.

Знаёмыя і сябры ведаюць Ганну пад імем Аная Тэпіш. Яна была кіраўніком клуба лучнікаў «Ліга вольных стралкоў». «Камсамольская праўда» піша, што яе былы муж Канстанцін працаваў праграмістам, пры разводзе пакінуў кватэру Ганне з сынам. Аднак паўгода таму Канстанцін вярнуўся і пачаў жыць з былой сям'ёй у адной кватэры, хаця ў жанчыны быў іншы каханы. Калі ж адбылося забойства, чатырохгадовы Артур знаходзіўся ў суседнім пакоі.

Што стала прычынай такога жорсткага здарэння, следчыя не раскрываюць. А пакуль расшукваюць кіроўцу легкавога аўто, магчыма, таксі, які падвозіў падазраванага (высокага маладога чалавека) з вялікімі сумкамі ўначы на 13 жніўня ад вуліцы Народнай да вуліцы Лук'яновіча. Кіроўцу альбо іншых магчымых відавочцаў просяць патэлефанаваць на: (044) 500-31-09, (017) 395-50-28, (017) 395-75-67.

**Кастусь Матушыч**



**Дабрачынныя рахункі**

Сябры Ганны Сардэчкінай адкрылі дабрачынныя рахункі.

Яндэкс грошы: нумар рахунка 410011940743120.

Для беларускіх рублёў: 3819382102369, УНП 100420097, МФА 153001614, у філіяле №514 ААТ «АСБ «Беларусбанк», аддзяленне 514/300, код 614, №01146749.

Даляры ЗША: 3819382101562, УНП 100420097, МФА 153001614, у філіяле №514 ААТ «АСБ «Беларусбанк», аддзяленне 514/300, код 614, №8400010000876.

## Сцісла

### П'яны і без штаноў раскалаціў вітрыну

42-гадовы госць з Калінінграда так напіўся, што зняў штаны і адправіўся ў краму ў в. Солы Смаргонскага раёна. У краме ён моўчкі разбіў вітрыну, выйшаў на вуліцу, дзе пабіў вокны яшчэ і ў доме пенсіянеркі. Калі ён працверазеў, не змог назваць краіну, у якой знаходзіцца. Заведзена крымінальная справа за хуліганства.

### Расстрэльваў ката, а трапіў у суседку

Незнаёмы кот панадзіўся да пенсіянеркі душыць яе куранят у в. Ведрыч Рэчыцкага раёна. Тая папрасіла суседа-паляўнічага пры выпадку падстрэліць яго. І калі кот сядзеў на плоце, сусед стрэліў. Праўда, некалькі шроцінаў зрыкашэцілі той самай пенсіянерцы ў галаву і грудзі. На шчасце, раненне не цяжкае. А дзе падзеўся кот, невядома.

### Выпадкова ўзяў 110 мільёнаў

Гамяльчук вырашыў пакласці грошы ў банк, але папярэдне з вялікай сумай зайшоў у краму. Грошы пакінуў у пакеце з малаком у камеры захоўвання. А калі вярнуўся, ячэйка была пустой. На відэа з камеры назірання ахоўнікі ўбачылі, што ў суседнюю ячэйку іншы мужчына перад гэтым паклаў такі самы пакет з малаком. А калі вярнуўся, выпадкова адамкнуў чужую камеру. Калі ў СМІ прачытаў пра пошукі грошай, усю суму аднёс у міліцыю.

### Ухіліўся ў пагоню — канфіскавалі BMW

На тры месяцы арыштавалі 29-гадовага кіроўцу, а яго BMW X5 канфіскавалі. Малады чалавек у лютым ухіліўся ў пагоню міліцыянтаў, калі тыя пераследавалі мікрааўтобус «Форд-Транзіт». Апошні адмовіўся спыніцца. Як высветлілася, на ім незаконна вывозілі металам у Расію. А кіроўца «БМВ» спрабаваў «адбіць» яго. Каля 30 стрэлаў зрабілі міліцыянты па колах абодвух аўто, пакуль тыя спыніліся. На судзе, праўда, хлопец віну не прызнаў.

**КМ**

# Лукашэнка — туз, Гігін — «шасцёрка», затое Коля — джокер

«Беларусы ў выгнанні» выдалі **калоду гульнявых карт** на тэму палітычных рэалій.

Арганізацыя «Беларусы ў выгнанні» рэалізуе праект «Калода Лукашэнкі» — яны выдаюць гульнявыя карты, на якіх знаходзяцца выявы беларускіх чыноўнікаў і бізнэсоўцаў.

Мэта — «інфармаваць грамадскасць, прадстаўнікоў бізнесу і ўрадаў па ўсім свеце пра тое, што, уступаючы ў гандлёвыя адносіны з рэжымам Лукашэнкі, яны падтрымліваюць рэпрэсіі, якія Лукашэнка ажыццяўляе ў нашай краіне».

Кожная карта суправаджаецца кароткім тлумачэннем таго, чаму кожны з фігурантаў апынуўся на карце і чаму яго ці яе варта ўключыць у спіс «прыхільнікаў рэжыму Лукашэнкі».

У калодзе традыцыйныя 52 карты, але цікавасць выклікае, які «намінал» стваральнікі далі канкрэтным беларускім чыноўнікам.

Напрыклад, сярод «двоек» Дзмітрый Паўлічэнка, а таксама старшыні судоў Пётр Міклашэвіч і Валянцін Сукала.

«Чацвёркамі» назвалі губернатараў — Косінца, Сумара і Шапіру.

«Шасцёркі» — знаныя прапагандысты Гігін і Давыдзька.

З бізнэсоўцаў у калодзе прадстаўленыя Аляксандр Шакуцін («сямёрка»), Аляксандр Машэнскі і Уладзімір Пефціеў («васьмёрка»), Юрый Чыж і Анатоль Тарнаўскі («дзявяткі»).

Хто ж ацэньваецца найвышэй? Валетамі сталі міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч, кіраўнік прэзідэнцкай аховы Андрэй Уцюрын, кіраўнік адміністрацыі Андрэй Кабякоў, а таксама прэм'ер Міхаіл Мясніковіч.










Дамы — у адсутнасць асаблівага выбару — Надзея Каткавец, Надзея Ермакова, Лідзія Ярмошына і Наталля Пяткевіч.

У каралях Віктар Шэйман, Уладзімір Макей, Валерый Вакульчык і Віктар Лукашэнка.

Затое туз адзін — Аляксандр Лукашэнка ў розных іпастасях. Есць і джокер — ягоны сын Коля, намаляваны з залатым пісталетам.

Варта адзначыць, што «Беларусы ў выгнанні» здолелі даволі дакладна вызначыць вагу чыноўнікаў у іерархіі.

**Ягор Марціновіч**

**Фотафакт**




**Як бы выглядалі куміры беларусаў у часе зомбі-апакаліпсісу**

Рэдакцыя часопіса 34mag пахуліганіла і ўявіла, як будуць выглядаць вядомыя ў краіне людзі, калі пачнецца зомбі-апакаліпсіс. У спіс трапілі Сяргей Міхалок, Віктар Ганчарэнка, Уладзімір Някляеў, Вікторыя Азаранка. Шведскаму дыпламату Стэфану Эрыксану так спадабаўся шарж на сябе, што ён нават паставіў яго аватарку ў Фэйсбуку.

# У Віктара Лукашэнкі нарадзілася чацвёртае дзіця

Сына назвалі **Яраславам**.

Паводле інфармацыі «Камсамольскай праўды», Аляксандр Лукашэнка стаў дзядулем у шосты раз.

Малога назвалі Яраславам, гэта чацвёртае дзіця ў сям'і. Да яго Лілія Лукашэнка нарадзіла двух дачок — Вікторыю і Валерыю, а таксама сына Аляксандра.

У Дзмітрыя Лукашэнкі пакуль двое дзяцей – дочкі Дар'я і Наста. Сёлета дзяўчаты перамаглі ў конкурсе для школьнікаў "Гуляй, зіма, твая часіна" з беларускамоўным сачыненнем.

Перад Новым годам Віктар Лукашэнка разам з роднымі наведаў у Мінску шматдзетную сям'ю Бабуляў. Пра гэта расказвалі ва ўсіх навінах. Цяпер у госці могуць ужо хадзіць да самога Вікатара, як шматдзетнага бацькі.

**ЯМ**




# Грабоўскі цяпер будзе гуляць з Авечкіным

За год у «Вашынгтоне» ён заробіць **тры мільёны** даляраў.

Беларус Міхаіл Грабоўскі нарэшце знайшоў новую каманду. У пачатку лета адносіны з хакеістам не захацелі працягваць у «Таронта Мэйпл Ліфз». Яны разарвалі кантракт, нават ведаючы, што беларусу давядзецца сплаціць 14,3 мільёна даляраў.

Кантракт Грабоўскага з «Таронта» быў заключаны на пяць гадоў, пасля таго як Міхаіл феерычна правёў першы сезон у складзе «кляновых лістоў». Праўда, у наступныя гады выніковасць беларуса стала падаць. Хоць сума кантракта была вельмі ўнушальнай.

З «Вашынгтонам» кантракт заключаны ўсяго на год, за які Грабоўскі атрымае 3 мільёны даляраў. Эксперт СВС Дон Чэры выказаў меркаванне, што стартавы сезон у складзе «сталічнікаў» Міхаіл правядзе бліскуча. «Пасля ён заключыць больш выгадны кантракт і сітуацыя паўторыцца нанова», — кажа Чэры.

«Вашынгтон Кэпіталз» яшчэ ніколі не выйграваў Кубак Стэнлі. Хоць мэта ў каманды толькі такая. Гуляе ж за каманду не абы-хто, а найлепшы хакеіст свету — расеец Аляксандр Авечкін.

Міхаіл Грабоўскі будзе пачынаць сезон адзіным беларусам у НХЛ. Хаця Дзмітрый Корабаў і Раман Грабарэнка, безумоўна, паспрабуюць трапіць з мінорных ліг у «Тампу» і «Нью-Джэрсі» адпаведна.

**Зміцер Панкавец**

# Маналог мастака, які малюе, трымаючы пэндзлік у роце

**Ёсць у Івацэвіцкім раёне вёска пад назвай Магіліцы. У гэтай вёсцы, у доме нумар 13, жыве чалавек, які мог бы стаць шмат для каго прыкладам сілы духу. Анатоль Галушка прыкаваны да ложка 33 гады. Ён самабытны мастак і паэт, які, не маючы магчымасці хадзіць, навучыўся маляваць, трымаючы пэндзлік у зубах.**



Дабраліся мы да Анатоля і яго матулі толькі з другога разу, у першы наша машына загарэлася проста пасярод шашы, на што сам Анатоль вельмі пазітыўна адказаў: «Не забывайце, які нумар дома я маю». Але мы не спужаліся і наступны раз даехалі. Яркую, жоўта-сінюю хатку знайшлі адразу, яе двор вылучаўся празмернай, нават штучнай чысцінёй, на падворку не было практычна нічога. Роўна пакошаная трава, хлявы, невялічкі агарод. Складалася ўражанне, што мы трапілі ў дом-музей, але пры жывым чалавеку.

Нас сустрэла матуля Анатоля, прыемная сталая жанчына, і сказала, што трэба пачакаць, бо Анатоль толькі скончыў маляваць і адмываецца ад алею, усё ж такі перад гасцямі трэба выглядаць добра. Пакуль чакалі — агледзеліся. У доме ўсё па-вясковаму проста, на сценах — першыя малюнкі Анатоля. Праз хвілінак дзесяць нам дазволілі заходзіць у пакой. Прызнацца, цяжка ўявіць, што перад табой інвалід, праз колькі хвілін размовы ўжо не заўважаеш ложак з жэрдкай над ім (для гімнастыкі). Бачыш светлы твар і такія яркія, поўныя жыцця вочы. Толькі вось рукі Анатоля, амаль без мышцаў ды скручаныя ў паралічы пальцы, вяртаюць да рэчаіснасці.

«Я ляжаў на беразе як ануча, нічога не варушылася, не адчуваў ні рук ні ног, толькі галаву мог павярнуць ды казаць нешта. Самае цікавае, што я напачатку не адчуваў ніякага болю».

З таго моманту пачынаецца новае жыццё 17-гадовага хлопца, які за дзень да гэтага стаў курсантам мараходнага вучылішча. Вярнуўшыся з Калінінграда дадому, ён пайшоў з братам на рачулку выцягваць з нор рыбу.

«Брат прапаноўваў ісці на нармальны пляж, але я ведаў месца, дзе была яміна, у якой я неаднаразова ўжо гэтую рыбу лавіў. Адзінае, чаго я не ведаў, што гэтую яміну занесла пяском. І нешта мы гэтага не заўважылі. Я з разбегу і нырнуў... Чую нейкі хруст і імгненна гублю прытомнасць. Пасля ачуняў пад вадой і бачу: перад вачыма дзве рукі плаваюць, а адчуванне такое, што і не мае зусім. Пасля галаву павярнуў і зразумеў, што рукі мае. Пачынаю задыхацца, разумею, што трэба да берага плыць, хачу паварушыць нагамі, а яны не рухаюцца, я іх не адчуваю зусім. У той момант я зразумеў, што зламаў хрыбет».



### У бальніцы чакалі, калі я ўжо памру

У бальніцы сказалі, што я пражыву максімум 7 дзён. Мяне і не ратавалі нават. На наступны дзень у бальніцу трапіў тата, у яго абвастрыліся праблемы са здароўем. Дык ён там скандал учыніў, як так, што маладому, здароваму 17-гадоваму хлопцу нічым дапамагчы не могуць. Толькі тады мне паставілі кропельніцу, штучнае кармленне рабілі. Пасля тата дамовіўся з Мінскам, каб мяне самалётам транспартавалі і на аперацыю адвезлі. Але і там сказалі, што я не транспартабельны і сэнсу гэта рабіць няма. Так я і застаўся ляжаць у Івацэвічах. Пасля мяне даслалі ў іншую бальніцу дажываць, а атрымалася наадварот, ачуняў. Намеснік галоўнага ўрача сказаў, што я выжыў насуперак законам медыцыны. І толькі тады мяне вырашылі даслаць у Мінск, праз паўтара года пасля здарэння. Калі б я адразу трапіў у інстытут артапедыі, магчыма, усё склалася б абсалютна іншым чынам.

### За што?

Было адчуванне пачуцця несправядлівасці, доўга думаў: чаму так атрымалася, а галоўнае — за што? Чаму нейкі алкаш ці злачынец здаровыя і маюць магчымасць паўнавартасна жыць, а ты столькі трываеш?

### Першасны дух, а не цела

У мяне была цэлая вечнасць, каб падумаць. Я шмат чытаў, шмат думаў. Быў страшным атэістам, але пасля пачаў чытаць рэлігійную літаратуру і шмат да чаго прыйшоў у развагах і думках. Першасны дух, а не цела і нельга на ім засяроджвацца.

Узнімецца дух нескароны
Да самых таемных вяршынь.
Няма для душы забаронаў...
І межаў няма для душы.

### У сне я магу хадзіць

Я люблю фантазіраваць, такім чынам я вандрую і спасцігаю свет. Магу гадзінамі ляжаць і фантазіраваць. Бо мазгі ў мяне вельмі натрэніраваныя на гэта. Таксама сны розныя цікавыя бачу. Раней шмат сніў, што лятаю, ці магу хадзіць, кранаюся нагамі зямлі і лячу. Аднойчы мне прыснілася, як па рацэ хаджу, адчуваю пад нагамі пясочак. І так гэта яскрава было, што, прачнуўшыся, я напісаў верш.

### Жыць асцярожна я не збіраюся

Часам шкадуеш, што так выйшла, але жыць асцярожна я не збіраюся. На вазку часам заеду на мяжу абрыву, падаецца, адзін рух — і ты падаеш. Гэтае пачуццё балансавання на мяжы мне падабаецца.

### Бурныя раманы

Нягледзячы на мой стан, у мяне заўсёды працякалі бурныя раманы. Спачатку дзіўна прымаць, што чалавек можа да цябе такога нейкія пачуцці мець. Але пасля зразумеў, што нешта можа быць.

### Сябры не даюць часу на кепскія думкі

Мне не было сумна. Мне пашчасціла на сяброў, яны не даюць часу на кепскія думкі. Да мяне ніколі сябры не ставіліся са спачуваннем, прынамсі, не паказвалі. У нашым доме заўсёды былі кампаніі, зранку і да вечара, стаяў смех, было весела.

### Не ведаў нічога з тэхнікі малявання

Я ніколі не думаў, што ўва мне ёсць нейкія выбітныя мастацкія здольнасці. Аднойчы ляжаў на баку, узяў аловак у зубы і вырашыў нешта чыркануць на сцяне. Атрымалася. Пасля пачынаў маляваць акварэллю на шпалерах, нейкіх аркушыках. Да алею доўга прыстасоўваўся. Не ведаў зусім нічога з тэхнікі малявання. Але спрабаваў і паступова навучыўся.

### Месяцамі не маляваў, бо не было чым

Усе грошы ішлі на мастацтва. Калі маляваў першыя карціны, дык і фарбы хутка сканчаліся, і палотнаў не было. Але заўсёды нехта ды падаруе пэндзлікі і фарбы. Сябры заўсёды ведалі, што мне падарыць. Але часам здаралася так, што і месяцамі не маляваў, бо не было чым.

### Маляваў тое, што засталося ў памяці

Спачатку маляваў краявіды родных мясцін, якія засталіся ў маёй памяці. Але ўсё вычарпальна. Цяпер мае сябры, вандруючы дзесьці па Беларусі, робяць для мяне здымкі мясцінаў. Часам у інтэрнэце знаходжу фотаздымкі прыроды, так і малюю. Бо не так часта ўдаецца вывезці мяне кудысьці.

### Дзякуючы мастацтву я жыву

Мастацтва — для мяне ўсё, дзякуючы яму я і жыву. Малюю ўжо 15 гадоў. За гэты час я намаляваў больш за 400 карцін. Першыя 15 гадоў я ляжаў і чытаў. Бо нешта рабіць зусім не мог. Паступова трошачкі распрацаваў рукі. Магу зараз згінаць іх у локці. Займаюся, расцягваю гуму, імкнуся падцягвацца. Малюю кожны дзень, пачынаю працаваць а 10 раніцы і сканчаю дзесьці а 4. Некаторыя карціны я малюю за 4 дні, некаторыя за тыдзень.

### Выстава ў фае палаты прадстаўнікоў

Маляваў я спачатку для сябе. І вось з цягам часу назбіралася пэўная колькасць прац. Аднойчы ў госці да нас завітала дырэктарка мясцовага клуба і здзівілася, што ў мяне так удаецца. Пасля яна ўжо прывяла праверку з культурна-метадычнага цэнтра, каб і ім паказаць, як малюе чалавек ў маім стане. Вось мне і прапанавалі зладзіць выставу, забралі карцінкі і афармілі іх.Пасля прывезлі кнігу водгукаў, там было столькі прыемнага напісана, што ў выніку гэта надало мне нейкай упэўненасці ў тым, што я раблю. Адна з выстаў адбылася нават у фае палаты прадстаўнікоў.

### Салдаты двор фарбавалі

Да нас прыязджала тэлебачанне, здымалі сюжэт, на які звярнуў увагу Лукашэнка. Ён даў указанне сваёй адміністрацыі навесці пра нас даведкі. І так атрымалася, што якраз у гэты час ён збіраўся прыехаць у Драгічын. Дык кіраўніцтва раёна вырашыла, што раз ён даведкі наводзіць, дык, значыць, і да нас у дом прыедзе. Што тут пачалося! Сабралася ўся раённая вярхушка, намеснікі старшынь выканкамаў, і пыталіся, што нам зрабіць. У вёсцы ўсё павыкарчоўвалі, нагналі на падворак наш салдат, яны ўсё пафарбавалі, поле ўздоўж дарогі ўзаралі. І галоўнае, усё ж самі напрыдумлялі, што кіраўнік краіны да нас завітае. Але карціну я яму намаляваў, яму яе перадалі, а я ад яго падарункі атрымаў.

### Для вершаў мазгі патрэбны

Неяк у мяне запыталі, як я прыйшоў да карцін, а не да вершаў. Я і задумаўся. Раней да кожнай карціны я дадаваў верш чатырохрадковы. Пасля я паспрабаваў напісаць верш і даслаў свайму сябру Валерыю Гапееву, пісьменніку, супрацоўніку івацэвіцкай раённай газеты. Але вершы былі па-руску, а Валерый узяў ды заахвоціў мяне пісаць вершы на роднай мове. Крытыкам ён быў строгім, не рабіў зніжак на мой стан здароўя. У карцінах можна некаторыя хібы прапусціць, бо я інвалід, а для вершаў мазгі патрэбны.

### Без мэты немагчыма жыць

Я люблю, калі ёсць планы, без мэты немагчыма жыць. Цяпер вось былі падрыхтоўкі да шматлікіх выставаў. Друкавалі маю кнігу вершаў. Заўсёды трэба было нешта намаляваць ці зрабіць. За лета трэба выканаць шэсць замоваў.

### Сям’я — самая вялікая каштоўнасць

Адзінае, ад чаго вельмі сумна і чаго сапраўды не хапае, дык гэта сям'і, дзяцей. Больш нічога і не хацеў бы. Страшна падумаць, што ты сыдзеш і нічога не застанецца пасля цябе. Сям'я — самая вялікая каштоўнасць, якую ты можаш мець.

### Я не баюся самоты

Але я не баюся самоты, мне заўсёды цікава ў сваіх думках. Чалавек — такая істота, якая прыстасоўваецца жыць у любых умовах. Адкуль тая сіла з’яўляецца, сам дзіўлюся. Напэўна, пры іншых абставінах не маляваў бы і вершы не пісаў. Усё ж такі творчасць — гэта справа душы, а мы, звычайна, у бегу дзён пра яе забываем. У мяне ж толькі і ёсць, што душа.

Кожны сам сваю творыць дарогу,
Не кажыце, што лёс не змяніць.
Маем выбар. І дзякуем Богу
За вялікую радасць жыць.

**Запісала Вольга Гарапучык**

# Чарвяк

**Зміцер Дашкевіч.** Аповесць.

*«НН» скончае публікацыю аповесці лідара Маладога Фронту Змітра Дашкевіча. Твор прыадчыняе заслону, за якой схаваны сучасны беларускі «архіпелаг неагулаг»: турма, яе парадкі і людзі ў ёй.*

**Заканчэнне. Пачатак у «НН» ад 17, 24, 31 ліпеня, 7, 14 , 21 жніўня.**



**Зміцер Дашкевіч**

Кіраўнік Маладога фронту. Быў затрыманы 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. У 2012 быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення, нібы за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Выйсці на волю Зміцер Дашкевіч мае ў дзень выхаду гэтага нумара «НН» — 28 жніўня 2013.

Перад самым абедам заляскаў ля маёй каморкі ключнік і, адамкнуўшы дзверы, прамовіў:

— Хадзем.

— Куды? — я начапіў феску і ўскочыў у туфлі.

— Там убачыш, — адказаў кантралёр.

На волі такі адказ можа інтрыгаваць, але ў турме — толькі напружваць. Ідзеш і не ведаеш: да любімага чалавека, які прыехаў на спатканне, ці да следака, што прыпёрся падшыць на цябе яшчэ пару паказанняў. З часам эмоцыі пры руху ў невядомасць прытупляюцца, але хаця б трошкі, але сэрца будзе адбіваць усхвалявана: тух-тух, тух-тух, тух-тух — а раптам убачу зараз каханую?

Мяне прывялі ў суседні будынак. На прадоле ізалятара, на стале, які выкарыстоўвае кухарка падчас кармёжкі камер, стаяла торба «ў клетачку». Такія торбы — сімвал дзвюх катэгорыяў чаўнакоў у нашым сацыялізме: тых, што возяць у іх па рынках тавар, і тых, што цягаюць у іх па этапах усю сваю маёмасць. Ля кешара гаманілі рэжымнік і дзве маладыя жанчынкі — бландзінка і брунэтка — супрацоўніцы з г.зв. «свіданак» — пакояў для кароткаі доўгатэрміновых сустрэчаў зэкаў з роднымі.

— Правярай, — суха прамовіў рэжымнік і сунуў мне аркуш паперы, на якім я адразу пазнаў почырк Настачкі — пальчыкі клапатліва спісалі цэлую старонку пералікам прадуктаў.

— Насценька перахазвала вітанне, казала, што вельмі кахае, сумуе, чакае, — узнёсла выгаварыла кожнае слова брунэтка.

— Дзякую вам вельмі, — адказаў я, крануты, бо яна ж не абавязаная была перахазваць мне вітанні, але зрабіла гэта, і нават так пяшчотна.

Добрыя сэрцам супрацоўніцы заўжды суперажывалі нашым з Насценькаю шматлікім спробам прарвацца да загса і стаць, нарэшце, мужам і жонкаю.

Перавярнуўшы аркуш, я напісаў на адваротным баку: «Перадачу атрымаў цалкам, прэтэнзіяў няма».

— Дык вы пра-аве-ерце,— расцягнула гукі бландзінка.

— Я вам веру, — усміхнуўся я, ставячы дату і подпіс.

Зэк рэдка калі правярае перадачу па спісе. Калі табе яе прыносяць, ты рукамі, што трасуцца ад радасці, драпаеш пяць словаў, дату, подпіс і цягнеш скарб у сваё павуцінне. Радасць складаецца з дзвюх частак: пяшчотнае радасці — ты напоўнены пачуццём удзячнасці за клопат і вестку ад любімых, і галоднае радасці — ты напоўнены пачуццём удзячнасці за ежу. Бо для зэка, а перадусім зэказлосніка (які «злосна парушае вызначаны парадак адбыцця пакарання»), ежа — адвечнае летуценне і адвечная праблема.

Уся перавыхаваўчая сістэма «неагулага» — зонаў і турмаў ДВП (Дэпартамента выканання пакаранняў) МУС РБ, — заснаваная на тым, што зэк заўсёды павінен быць галодны, хоць паводле судовага выраку мне забаранілі колькі год дыхаць вольным паветрам, а не пазбавілі права есці.

У СІЗА, калі ты знаходзішся ў статусе падследнага і маеш права на безлімітную атаварку і перадачу ў 30 кг штомесяц, з галадаморам сустракаешся рэдка. Толькі калі сядзіш у вялікай хаце, дзе ўсе прадукты ў цябе хутка павыпрошваюць. У зоне ж голад — гэта дыягназ. Выключэнні здараюцца толькі тады, калі ты атрымаў перадачу і пару тыдняў вядзеш з сябрамі разгульны лад жыцця. Вось як я з Дзёнем, патрапіўшы на ягонага «кабана». Увесь астатні час сядзіш на «палажняковай» пайцы.

Што такое «палажняк» — сказаць цяжка, бо ў кожнай зоне мадыфікацыя баланды залежыць ад таго, колькі дзясятак пар рук цягне з зэкаўскага катла. Нават калі недзе цудам не цягнуць надзіральнікі, будуць цягнуць зэкі (таму месца каля катлоў з мясам, цыбуляю і часнаком каштуе найбольш плюсікаў). Вельмі сумняваюся, ці можна наесціся, каб нават па тых нормах накладалі ў шлёмку. А пасля таго, як самыя ласыя кавалкі выцягнутыя, шанцаў перамагчы ў няроўнай бітве з голадам — ніякіх.

У цывілізаванай краіне пазбаўленне права хоць раз на дзень, але наесціся, назвалі б катаваннем, а ў нас гэта з гонарам называюць «перавыхаваўчым працэсам». Гэты працэс, каб на «агульным рэжыме» ты меў чатыры перадачы па 30 кг у год, а на «строгім» — дзве. Каб ты мог атаварвацца ў зонаўскай крамцы на пару даляраў у месяц. І тое, будзеш мець ты на ўсё гэта права толькі тады, калі ходзіш перад гарантам рэжыму на дыбачках. Калі ж ты нешта недзе пікнуў, калі гузік не зашпіліў на кашулі — галодная смерць грукаецца ў твае дзверы. Часцей за ўсё — у дзверы ізалятара, бо за кожную правіну перад рэжымам ты разлічваешся перадачамі, атаваркаю, сустрэчамі з роднымі, а калі пазбавіць цябе ўжо няма чаго — едзеш у ШІЗА, на ізалятарную баланду.

Вось такі «перавыхаваўчы працэс», хаця і не сустракаў я яшчэ ніводнага, каго б гэткімі метадамі перавыхавалі. Відавочна, неэфектыўнасць падыходаў разумеюць і трымальнікі рэжыму, але і не стаіць задачы нешта людскае выхаваць у чалавеку. Задача ў тым, каб кожнае імгненне адчуваў ты, што ты раб, якога толькі з ласкі Галоўнага рэжымніка кормяць. І ўсе гады, пакуль ты жарэш «палажняковую» падачку, ты павінен убіваць сабе ў падкорку: каб мець да шлёмкі баланды яшчэ і костку, мусіш хадзіш на дыбачках і зашпіляцца на ўсе гузікі.

— Куды вадзілі? — гукнуў з суседняй камеры Дзёня, калі дзверы за мною зачыніліся.

— Насценька прыязджала,—радасна адказаў я.

— Во! — здзівіўся сябар. — Ні на крок ад цябе.

— І колькі ўжо гадоў — ні на крок. Я часам сам не разумею нават, хто больш гэтыя мае тэрміны матае — я ці яна?

— А што, такая хуткая свіданка ў цябе?

— Не для таго раскручвалі, каб потым свіданкі выпісваць, — уздыхнуў я з сумам. — Дазволілі толькі перадачу перадаць.

— Звычайна, калі прыязджае да каго-небудзь дзяўчына, дык кароткую сустрэчу дазваляюць, а можна нават і на доўгатэрміновую дамовіцца.

— Гэта казка не пра нас.

— Дык я яшчэ дзіўлюся, як табе перадачу дазволілі з такімі раскладамі.

— Я ж як падследны цяпер, пасля раскруткі, — патлумачыў я. — Дык 30 кг на месяц маю. Толькі не думаў, што ўжо тут магу атрымаць, але, бачыш, і сюды прабілася, клапатлівая... Ірвану цяпер у атаку з поўным боекамплектам.

— А калі этап?

— А палове недзе на першую.

— Было б класна разам паехаць.

— Не, Дзёня, табе б вопісы ўжо прынеслі. Таму пакуль стартую я адзін.

— А куды едзеш? — гукнуў з-за сцяны, ушчаміўшыся ў размову, яшчэ адзін сусед, Санчоус.

— Дакладна не ведаю, хутчэй за ўсё ў Мазыр. У беснаватых «Горках» быў, у «Глыбокім» выхапіў, засталося толькі ў «Мазыр» пракаціцца — канцлагер, кажуць, там яшчэ той.

— Я ў «Мазыры» першы тэрмін сядзеў,—нечакана выдаў Санчоус. — У зоне рэжым такі, што не прадыхнуць, але ж ты «пад дахам» пастаянна будзеш?

У перакладзе на цывільную мову гэта значыла: «Будзеш па ШІЗА/ПКТ сядзець?»

— Толькі так, —цвёрда запэўніў я.

— Дык там будзе табе добра. Кічу «грэюць» нармальна, «курыцьварыць» у кожнай хаце. І сам будынак новы, 2004 года — усё па еўрастандартах і са шклопакетамі.

Сэрца выкінула ў артэрыі гадавую дозу эндарфіну — я ўявіў сабе шклопакеты ў ізалятары і па еўрастандартах мякенькую драўляную падлогу, на якой могуць з'явіцца неблагія шанцы перажыць зіму, бо яшчэ адну глыбоцкую, з пяццю пад'ёмамі на ноч на 20—30-хвілінную зарадку (каб не здохнуць ад холаду) я мог бы ўжо і не выцягнуць.

— Санёк! — гукнуў я. — Ты натхніў мяне неймаверна! «Курыцьварыць», праўда, сто год мне не трэба, а вось Біблію хацелася б неяк адваяваць.

— Там у кожнай хаце, — заявіў Санёк.

— Во ё-маё! Сядзеў бы і сядзеў бы ў такім санаторыі!

— Хе-хе, — гагатнуў добры сусед. — Ну дык пасядзіш.

Перад вячэрай я разлічыўся з зонаю — здаў матрац, падушку, коўдру, дзве прасціны, навалачку, алюмініевы «кругаль». Вызваліўшы шконку, падняў яе да сцяны, усеўся на зэдліку ды пачаў да Насцюлечкі «этапны» ліст, які меўся працягнуць на сталыпінскіх нарах, а завяршыць у «Віцебску» і адтуль жа даслаць. (Пры пераездах люблю пісаць храналагічныя пасланні.)

— Дзімон, а ты ведаеш, што я зрабіў? — клікнуў тут мне Дзёня з пэўным выклікам.

— Што? — падыграў я.

— На вас вось з Настассяй паглядзеў і напісаў сваёй. Так і так, пішу, Машанька, ці давай распішамся, ці з мірам усё скончым... Яшчэ раз нагадаў пра погляды свае на жыццё; пра тое, што сям'ю можна стварыць толькі на падмурку Хрыста. А калі інакш, дык лепш і не ствараць — нічога добрага не выйдзе.

— Гэта ты правільна. І з каштоўнасцямі, канечне, трэба вызначацца адразу. Каб у адным духу быць.

— Так, бо наглядзеўся я на сем'і гэтыя, без Бога. Я нават па сваіх бацьках гляджу: жылі сабе жылі, а потым раз — і разышліся... Дык у нашых бацькоў хаця б нейкую мараль закладалі! Раней для дзяўчыны пацалавацца з хлопцам было неймавернай дзеяй, а паглядзі, што цяпер робіцца?! Цяпер яна з класа ўжо 8-га такое вытварае, што і казаць сорамна. Калі мне прыносіць хто ў барак газеткі гэтыя жоўценькія, ганю прэч. Бо неяк узяўся раз чытаць, як там дзяўчынкі ў чатырнаццаць выпісваюць, дык сам сяджу і чырванею ад сораму. І вось ствары тут сям'ю, што гэта будзе?

...Пасля адбою на голыя нары я ўжо не клаўся — вырашыў перад этапам прагуляцца. Было гадзінкі чатыры, каб памаліцца ды паразважаць пра будучыню, што, як ні круці, але беспрасветнасцю сваёю пужала.

Праз гадзіну сцішыўся гук Дзёневай малітвы. «Прыкарнуў, мабыць, чарвяк, — падумаў я і чамусьці стала сумна, так хацелася перад дэпартацыяй крыкнуць пару добрых словаў гэтаму Божаму чарвяку. — Гэта ж вынайсці такое — «чарвяк». І як актуальна!»

Бывае ў супольнасці знаёмых (ці не вельмі) людзей нейкі жарт, рэпліка становяцца афарызмам. Нехта прамаўляе яго — і ўсе ўсміхаюцца, ці разважаюць, ці, паглыбіўшыся ў сябе, думае кожны аб асабістым. «Чарвяк» гэты стаў сімвалам шасці маіх сутак у адзіночцы, за якія я адпачыў душою. І, перахапіўшы паветра, гатовы да новага рыўка ў цемру. Дзякуй табе, чарвяк, цяпер гатовы.

Хаця, падавалася б, што можа нас яднаць? У яго свае ўстаноўкі, у мяне — свае: ён можа памаліцца «святому» самадзержцу, я — не прызнаю; ён не вельмі любіць Амерыку, я — люблю; ён — русіч, я — ліцвін. Але ён спавядае Айца, Сына і Духа Святога, і я спавядаю; ён любіць дзіўную матчыну мову, і я люблю; ён — беларус, дык і я, здурэўшы кажу, тым больш!

І ці не ў тым спрадвечная бяда нашая, што найперш шукаем мы не тое, што нас яднае, а тое, што адрознівае?.. Хаця наколькі ж усё гэта пустое: злева направа ці справа налева, трыма пярстамі ці двума, ад Айца ці ад Айца і Сына, ды нават: святыя тыя ўзурпатары ці не святыя? Усё, усё пустое. Навошта мне яно, калі я ведаю, што сам — ніякі, калі я бачу, як шмат ува мне нават элементарных рэчаў, над якімі працаваць яшчэ і працаваць.

...Самае галоўнае — упакоранае сэрца. Вось, як у Дзёні, Чарвяка. А будзе яно, астатнім Бог напоўніць.

Гэтак разважыў я, ходзячы тудысюды па чатырох рыпучых дошках даўжынёю 2,5 метра.

Спыніўся, прыслухаўся: ціха-ціха. «Усё ж спіць», — падумаў я і глянуў на гадзіннік. Палова на дванаццатую — да этапа гадзінка. «Спаць», — сказала цела. «Пратрымайся», — запярэчыў дух. Я з замілаваннем агледзеў прывабны куточак пад акном. «Спаць», — паўтарыла цела. «Рабі што хочаш», —адказаў дух.

Я дастаў рулон туалетнай паперы, паклаў яго пад плінтус і скурчыўсятакі на сваім ложку. Сон паглынуў імгненна.

...Заляскаталі дзвярныя засаўкі. Я падскочыў.

— Ну што, Зміцер, гатоў? — адчыніўшы дзверы запытаў прапаршчык Зміцер. Той самы, які і змяшчаў мяне на шэсць сутак вакацый.

— Гатовы, Зміцер! — пацвердзіў я і пачаў выцягваць свае хатулі.

— Куды цяпер?

— Спачатку трэба неяк «Віцебск» перажыць, а там мо «Мазыры» якія.

— Чаму Мазыр?

— Кажуць бывалыя, што такіх, як я, трымаюць у «Горках» ці «Мазырах».

— І што, думаеш, там лепш будзе? — хмыкнуў іранічна мой цёзка.

— Я не думаю, Зміцер, я ведаю — там будзе толькі горш.

— Дык і на якую яно табе халеру?

Я выпрастаўся і паглядзеў на Змітра. «Сапраўды, а на якую яно мне халеру?!» — кінулася з правага паўшар'я ў левае здзекліва-лагічная думка.

— Я ж не выбіраю... — уздыхнуў я. — Мяне вядуць, і я паведзены, — імгненна ўзяўшы сябе ў рукі перафразаваў я Ерамію.

Зміцер у адказ сумна усміхнуўся. (Дай Бог яму здароўя і добрую жонку — ён заўсёды быў спагадлівы да мяне!)

Выцягнуўшы свае пажыткі да лесвіцы, я прыслухаўся да вуглавой адзіночкі: цішыня. Што ж, адпачывай, браце-чарвяк, і табе трэба сілы. А я, таксама чарвяк, «чарвяк, а не чалавек, знявага ў людзей і пагарда ў народзе», як пісалася ў псалме цара Давіда. Той, хто прызнаў сябе зняважаным і пагарджаным чарвяком, быў і самым вялікім царом пад нябёсамі, з роду якога пайшоў Той, Хто і нас, зняважаных і пагарджаных чарвякоў, робіць «царамі на зямлі і валадарамі» (Адкрыццё 5:10).

Адпачывай, чарвяк, а я пасунуся. Я веру: атрымаецца і ў нас. Бо навошта тады ўсё?..

# Мастак суровы, паўночны. І, адначасова, беларускі, мяккі

**Арлен Кашкурэвіч** стаў часткай вялікай эпохі.

26 жніўня а 17-й не стала Арлена Кашкурэвіча — народнага мастака Беларусі, класіка еўрапейскага графічнага мастацтва. Яго творы захоўваюцца не толькі ў музеях і калекцыях. Яны ёсць у кожнай беларускай сям'і, у якой чытаюць. Бо Кашкурэвіч аформіў сотні кніг. Ён рабіў ілюстрацыі да «Каласоў пад сярпом тваім» Караткевіча, «Песні пра зубра» Гусоўскага, «Фаўста» і «Найвышэйшай песні Саламонавай» у беларускіх перакладах. Ён быў часткай вялікай эпохі ў беларускай культуры — эпохі Караткевіча, Быкава, Адамовіча, з якімі, дарэчы, блізка сябраваў. З Быкавым яны нават жылі ў адным доме на Танкавай.

Ён належаў да рэдкага тыпу людзей, з рэдкай біяграфіяй — карэнны жыхар Мінска, які ўсё жыццё, апроч вайны, пражыў у родным горадзе; народны мастак, які не быў камуністам; творца старэйшага пакалення, які атрымаў цалкам беларускую адукацыю.

Не было павярхоўным і знаёмства Арлена Кашкурэвіча з еўрапейскай, а перадусім, нямецкай культураю. Ён сам чытаў па-нямецку, а калі працаваў над вобразамі Гётаўскага «Фаўста», то прасіў жонку, выкладчыцу нямецкай, дэкламаваць яму паэму ўслых...


АЛЯКСАНДР АБУХОВІЧ

Сваю першую нізку паводле «Фаўста» Кашкурэвіч зрабіў яшчэ ў 1975. Алегарычныя вобразы і нечаканая трактоўка галоўных персанажаў уразілі гледачоў. Мефістофель з аперэтачнага злодзея ў старасвецкіх іспанскіх строях ператварыўся ў жывёлападобнага монстра. А Фаўст, збіральны вобраз усіх геніяў навукі, стаўся халодным і недатыкальным, абыякавым да свету. Пазней Кашкурэвіч казаў, што больш трапным прататыпам быў бы савецкі акадэмік Сахараў, распрацоўшчык ядзернай зброі.

У 60-я, каб пазбегнуць ілжывага пафасу і хлусні, не услаўляць савецкую ўладу, абраў ваенную тэму. І ягоны класічны цыкл «Партызаны» — без дзьмутага гераізму, у ім бачная толькі ахвярнасць.

Кашкурэвіч быў адным з 203-х дзеячаў культуры, якія ў 2009-м звярталіся да Лукашэнкі з лістом у абарону мовы.

«Даўно, яшчэ з самага пачатку, калі ён зрабіў ілюстрацыі да Халдоўра Лакснэса, — я зразумеў, што перад намі мастак суровы, паўночны. І, адначасова, беларускі, мяккі — калі можна гаварыць пра мяккасць нашага народу, — добры, наш», — пісаў некалі пра Кашкурэвіча Уладзімір Караткевіч.

Сыны Кашкурэвіча, Ігар і Тодар, выраслі мастакамі.

**Сяргей Харэўскі, СМ**

Рыгор Барадулін

**Памяці Арлена Кашкурэвіча**

Лёс пацвердзіць ісціну тую:
Мастакоўская
Сцежка коўзкая,
А не пустуе.

Нагарнулася...
Адыходзіць балюча мастак,
Прытаміўся бязлітасна хворы.
У журбоце прыціхлі творы
Ягоныя
І спякотныя, і сцюдзёныя.
Апошняе слова за імі!

Няхай імжа стагоддзяў
Імжыць,
Ім жыць цяпер у ягоным імі.
Ім жыць за яго.
Ім быць ім…

# Мільянер Тарнаўскі аднавіў сядзібу Ваньковічаў

Сярод іншага, там **будзе рэстаран** з 11 залаў.

На пачатку верасня ў Мінску, на вуліцы Філімонава, адчыніцца адрэстаўраваная сядзіба Ваньковічаў. Рэстаўрацыяй, якой займалася кампанія «Юнівест-М», было ўкладзена $10 мільёнаў.

Цяпер у сядзібе плануюць праводзіць канцэрты камернай музыкі, модныя паказы і выставы. Будзе і рэстаран на 11 залаў, наведнікам прапануюць розныя віды кухняў — беларускую, азіяцкую, нямецкую. На летняй тэрасе змогуць адначасова знаходзіцца 600 чалавек.

Па словах прадстаўнікоў кампаніі, да рэканструкцыі сядзіба знаходзілася ў гнятлівым стане. Акт агляду за 2006 год сведчыць, што падмуркі знасіліся на 40%, сцены мелі расколіны, а дах знасіўся на 20%. Не было часткі балконаў, адслойвалася тынкоўка, былі страчаныя ўсе першапачатковыя лесвіцы, дэкаратыўнае ўбранне памяшканняў, расказвае спецыяліст па маркетынгу кампаніі Наталля Таўстая.

У савецкі час частку мура разабралі, прабівалі новыя дзвярныя праёмы, закладалі старыя... Па якіх дадзеных аднаўляюцца ўнутраныя памяшканні?

Ёсць малюнкі Чэслава Манюшкі, фота і планы тэрыторыі Вялікай Сляпянкі XIX ст., а таксама схемы планаў сядзібнага дома пачатку XX стагоддзя, зробленыя Ваньковічамі, кажа спадарыня Таўстая. Акрамя таго, існуюць ўспаміны Марыі Ваньковіч — дачкі апошняга ўладара сядзібы Пятра Ваньковіча.

Рэстаўратары аднавілі фасады будынка, балконныя агароджы. На жаль, самыя адчувальныя перапланіроўкі 1950—1960-х цалкам знішчылі гістарычныя інтэр'еры будынка. Мы аднавілі інтэр'еры дзвюх залаў на другім паверсе: «Вялікую сталовую» і «Бальную залу». Асабліва цяжка паддаваліся аднаўленню сутарэнні і падмурак.

Старшыня Таварыства аховы помнікаў Антон Астаповіч станоўча ацэньвае вынік: «Рэстаўрацыя праведзена згодна з усімі правіламі. Адзінае, што пакуль я не бачыў унутраных інтэр'ераў, але, паводле кампаніі, яны таксама максімальна набліжаныя да першапачатковых».

Кампанія «Юнівест-М» заснавана расійскім мільянерам Анатолем Тарнаўскім. Яго бізнэс раней быў найбуйнейшым экспарцёрам нафтапрадуктаў, а цяпер сканцэнтраваны на будаўніцтве. Тарнаўскі працуе ў шчыльным супрацоўніцтве з Прэзідэнцкім спартыўным клубам Дзмітрыя Лукашэнкі, у кіраўніцтве кампаніі была нявестка кіраўніка дзяржавы. Мільянер уваходзіць у «чорны спіс» Еўрасаюза, яму забаронены ўезд у краіны Шэнгенскай зоны.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Юрась Ускоў**

# Дэтэктыў, спадарства!

Пачну з фразы, годнай для Капітана Відавочнасці: дэтэктыў — самы папулярны ў свеце літаратурны жанр. У Беларусі тое самае, зайдзіце ў мінскае метро ды паглядзіце, каго чытаюць пасажыры: Данцова, Марыніна, Дашкава. Крыху больш падрыхтаваныя чытачы глытаюць Барыса Акуніна, Ю Нэсбё, Стыга Ларсана. Ці нават прыдуманага аўтара, героя тэлесерыяла Рычарда Касла.

Гэта ўсё сучасныя аўтары, якія пішуць цяпер (за выключэннем нябожчыка Ларсана) і карыстаюцца папулярнасцю. Беларуская літаратура апошніх гадоў амаль зусім не прадукуе дэтэктываў.

Паглядзеў рэйтынг беларускіх дэтэктываў, што складала на сайце радыё «Свабода» Наталка Бабіна. Адны адносяцца яшчэ да савецкіх часоў («Чорны замак Альшанскі» і «Дзікае паляванне караля Стаха» Караткевіча), іншыя да 90-х (Федарэнка, Сарокін, Ялугін). Згадваюцца яшчэ браты Адамчыкі (Міраслаў Адамчык і Адам Глобус), Уладзіслаў Ахроменка ды Максім Клімковіч. Думаю, кагосьці абавязкова забыўся, але смела можна канстатаваць — дэтэктывы не пішуцца.

Хаця, здавалася б, сюжэтаў хапае з лішкам. Паглядзіце нават тую ж «нашаніўскую» рубрыку здарэнні. Бываюць такія гісторыі, што пазайздросцілі б любыя аўтары. Бяры і раскручвай. Чагочаго, а злачынстваў у сённяшняй Беларусі хапае.

Голад на адсутнасць беларускамоўных дэтэктываў крыху спатолілі перакладчыкі з інтэрнэтчасопіса «Прайдзісвет». У кнізе, якую яны ўклалі, сабрана 16 апавяданняў розных па нацыянальнасці і часе жыцця аўтараў.

Тут ёсць усё: забойствы, крадзяжы, падманы, атручванні. Выдатныя сышчыкі, як каталіцкі святар Браўн у англійскага пісьменніка Чэстэртана, ці Элеры Куін у амерыканскага пісьменніка... Элеры Куіна. А вось герой рускамоўнага ізраільскага пісьменніка Даніэля Кругера нясцерпна нагадвае Вільгельма Баскервільскага з «Імя ружы» (таксама дэтэктыў) Умберта Эка.

Пародыя Брэта Гарта на Шэрлака Холмса прымусіць вас уголас смяяцца. А славачка Даніэла Капітана пахуліганіла, уявіўшы, як самыя знакамітыя сышчыкі свету (ад Эркюля Пуаро да агентаў Малдэра і Скалі з «Сакрэтных матэрыялаў») расследуюць адно і тое ж забойства.

«Злачынства, сэр» — адназначна добрая кніга. Але персанальна мне наступны раз хацелася б прачытаць якасны вялікі дэтэктыў, аб'ёмам з гэты зборнік. Добра, калі перакладны, а яшчэ лепш — у арыгінале створаны па-беларуску.

**Зміцер Панкавец**



Злачынства, сэр! Зборнік дэтэктыўнага апавядання. Беларускі кнігазбор, 2013.

# «У Лондане размаўляюць па-беларуску»

Давялося мне пабываць **у гасцях у айца Аляксандра Надсана** і айца Сяргея Стасевіча.

Яны жывуць ды працуюць у Лондане ў грэка-каталіцкай місіі святога Кірылы Тураўскага, і дбаюць аб музеі ды бібліятэцы імя Францішка Скарыны.

Ужо з парога, прывітаўшыся, айцец Аляксандр запытаўся, адкуль я паходжу. Кажу, што з Іўя, недалёка ад малой радзімы Зянона Пазняка. Потым прывітаўся са мною айцец Сяргей і пасля маленькай гутаркі пайшоў гатаваць абед.

Потым а.Аляксандр кажа: «Ну, што ж з табой рабіць, трэба ўсё табе тут паказаць». Так і пачалі сваю экскурсію. Па-першае, мы пачалі глядзець кніжкі. Айцец, жартуючы, сказаў, што трошкі назбіралася — тысяч трыццаць тамоў аб беларушчыне.

Усе кнігі падзяляюцца на два тыпы: напісаныя па-беларуску, альбо пра Беларусь. Пабачыў я сапраўды рэдкія кніжкі: ад беларусазнаўчых працаў царскай эпохі і да сучасных зборнікаў пра беларусістыку, напісаных прафесарамі еўрапейскіх універсітэтаў. Насамрэч гэта бібліятэка — каштоўнае месца для напісання навуковых прац!

Пазней мы пайшлі ў залу з экспанатамі. Перш-наперш погляд упаў на рукапіс верша Янкі Купалы «Курган». Як і я, так і айцец Аляксандр адчувалі захапленне: я быў праўдзіва здзіўлены, а айцец, як я лічу, быў напоўнены радасцю, што такі каштоўны скарб народа не згінуў і не знік, але застаўся сярод беларусаў.

Сярод экспанатаў ляжаў цыліндрычны кавалак пачарнелага срэбра, а.Аляксандр вытлумачыў мне, што гэта такое. Ен сказаў, што гэта — грыўна, грошы, якія выкарыстоўваліся яшчэ перад манетамі ў ВКЛ. Сама па сабе грыўна — рэч сур'ёзная і трошкі важыць, таму трэба было яе дзяліць на меншыя часткі. Дык вось, калі рубілі грыўну, атрымоўваліся сярэбраныя грошы — рублі. Вось адкуль гэтая назва.

Яшчэ была адна цікавостка. У 1971 у Аб'яднаным Каралеўстве пачаўся страйк паштавікоў. Беларусы не засталіся ўбаку і стварылі ўласную беларускую пошту. Працаўнікі місіі часова ператварыліся ў паштароў і дастаўлялі лісты ў беларускія дамы. Наша пошта паспела выдаць некалькі марак, аднак калі страйк паштавікоў скончыўся, прыйшло пісьмо ад Яе Высакосці каралевы, якая забрала ў беларусаў права мець сваю пошту.

Шмат чаго цікавага я яшчэ пабачыў. Але цяжка ўсё перадаць, лепш раз убачыць на свае вочы.

Пасля экспазіцыі мяне запрасілі на абед. Айцец Сяргей займаецца гаспадаркай і сам гатуе ежу. Прыгатаваў ён суп ды мяса. Было сапраўды смачна і лёгка. Айцец-кулінар прызнаўся, што мяса на стале толькі з маёй прычыны, бо айцец Аляксандр — вегетарыянец, а гатаваць ежу асобна сэнсу няма.

Застольная гутарка была вельмі прыемнай, бо ў доме была незвычайна родная атмасфера. У святароў шмат працы, а таксама шмат планаў, якія яны ўжо пачалі энергічна рэалізоўваць. Уперадзе будаванне прыгожай грэка-каталіцкай святыні. З Божай дапамогай восенню будзе атрыманы дазвол ад уладаў на будаванне. Айцец Надсан жартаваў на гэты конт: «У Англіі бюракратыі не менш, чым у нас дома». Я спытаўся таксама ў айца, ці шмат вернікаў збіраецца на літургію. У адказ я пачуў вось такі цудоўны жарт: «Беларусы — народ вельмі зычлівы, яны не турбуюць нікога, нават самога Бога». Але я потым упэўніўся, што людзі насамрэч прыходзяць. І пра многія іншыя рэчы была гаворка.

Калі я ехаў у музей, я думаў, што мяне ад Радзімы аддзяляе цэлае мора, але, апынуўшыся ў доме, я зразумеў, што Holden Road, 37 — гэта таксама Беларусь. Было тут шмат беларускага: зычлівыя людзі, жывая мова, любоў да свайго, а таксама нешта новае: пачуццё свабоды.

Я запытаў у айца Аляксандра, што перадаць тым, хто ў Беларусі, дык ён сказаў мне: «Перадай, што і ў Лондане размаўляюць па-беларуску».

**Андрэй Сантоцкі, Лондан — Іўе**

# Будуем экадом

Мы маладая сямейная пара з Бешанковіч. Вырашылі пабудаваць энергапасіўны дом з экалагічных матэрыялаў (салома, гліна, дрэва). Падмурак ужо усталяваны, таму пры дапамозе валанцёраў мы разлічваем скончыць усе працы да 1 кастрычніка.

Маем патрэбу ў валанцёрах. Гатовыя забяспечыць ежай, пражываннем у гатэльчыку і часткова пакрыць выдаткі на дарогу.

Кантакты: vladi_r@tut.by, (029)701-61-83 (Уладзімір), (029)293-71-60 (Аляксандра)

**Уладзімір Рамановіч і Аляксандра Звездзянкова, Бешанковічы**




**Фотафакт**

**«Прыгажосць» па-навагрудску**

Наваградак (Навагрудак) — першая сталіца Вялікага Княства Літоўскага. Але ці ўпрыгожвае гэты цудоўны гістарычны горад збудаванне, што стаіць у ў пачатку цэнтральнай вуліцы, побач з плошчай? Ці гэта экспанат для будучага горада-музея Беларусі?

Вельмі на тое падобна, бо шматлікія замежныя турысты не абыходзяць гэты «цуд» бокам, са смехам і жартамі фатаграфуючыся каля яго. Няўжо мясцовым уладам не сорамна?

**Аляксандр Станішэўскі**

# Беларуская глыбіня. **Чаканне адказу**

Піша **Павел Севярынец**.

*Адказваючы яму, Ісус спытаўся: чаго ты хочаш ад Мяне?*
*Марка 10:51*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Доўгі званок. Пранізлівы. Патрабавальны. Такі ж самы, як на пад'ём ці праверку.

Пачынаюць грукаць дзверы на першым і другім паверхах, тупат ног па калідорах, шоргат на лесвіцы.

— Віктарына?..

У актавай зале, якую дзяжурка дагэтуль імяную *ленкомнатай*, дзе ў любым кутку цябе гіпнатызуе партрэт Рыгоравіча і ў кратах граюць блікі сонца, прасеянага скрозь лісце, хлопцы ды мужыкі рассаджваюцца на патройных секцыях складных савецкіх крэслаў і заціхаюць.

— Хто з герояў Бібліі сядзеў у турме?

— Назавіце самую светлую кнігу святога Пісьма.

— Ісус, укрыжаваны, крычыць: «Божа Мой, Божа Мой, чаму ты Мяне пакінуў?..» А сапраўды, чаму?

**Маўчыць каменда. На пытанні адказвае, на малітву дружна ўстае, але маўчыць**



З сёлетняй вясны ў спецкамендатуры нумар сем адбываюцца біблійныя сустрэчы. Двойчы на месяц у нядзелю, сярод дня або пад вечар прыязджаюць *браты* з евангельскіх цэркваў. Брат Мікалай — баптыст, колішні гарманіст, чарнобыльскі ліквідатар; пахаваў сваіх набрынялых радыяцыяй таварышаў, а сам застаўся жывы, каб сведчыць пра Хрыста; перапісваецца з шасцю пажыццёва зняволенымі; піша вершы, у тым ліку і пабеларуску; прапаведуе і грае на акардэоне. Яшчэ адзін брат — Мікалай, але ўжо пяцідзясятнік, высокі, з высакародным абліччам, снежнай сівізной і пякучымі вачыма, што за саветамі цярпеў за веру — глыбокім барытонам спявае псалмы. Брат Слава, той самы, што працаваў і сведчыў у нас на складзе запчастак — чытае Біблію і тлумачыць: проста, ясна, робіць паўзы, каб дайшло.

Мая справа — біблійная віктарына напрыканцы.

— Колькі разоў Ісус *перамяняўся*?

— На якіх мовах у Пружанах чытаецца ўголас Евангелле?

— Пакажыце, дзе шукаць Валадарства Нябеснае?

Прызы пераможцам за слушныя адказы адмысловыя. Акрамя, само сабою, кніг ды паштовак з евангельскімі цытатамі, цукерак ды сокаў — шарык для пінг-понга, улюбёнай гульні каменды; дэфіцытная лямпачка (калі ў пакоі перагарэла — цішком выкручваюць, натуральна, у кухні або прыбіральні, і робіцца цёмна ўсім); шасцілітровік чыстай пітной вады — бо тутэйшую, іржавую, толькі фільтраваць.

Пытанні трэба падабраць так, каб адказ трапляў у сэрца. Біблія Сёмухі — пабеларуску, але затрымкі з адказам дзеля перакладу ў думках у хлопцаў ужо няма. Форма не напружвае, засталося галоўнае: сутнасць.

А сутнасць простая. Хочаш збавіцца? Хочаш жыць вечна? Хочаш на неба?

Маўчыць каменда. На пытанні адказвае, на малітву дружна ўстае, але маўчыць.

Куплін — зусім не Малое Сітна. Евангелізацыя вакол спецкамендатуры аж віруе. Абавязкова прыязджае айцец Ігар з пружанскай Спаса-Праабражэнскай царквы, распавядае пра веру ды ставіць фільмы. Наш айцец Сяргей з Новых Засімавічаў пераконвае *цвеlocalразець*. Мінскі аўтапрабег «Беларусь для Хрыста» з канцэртам... Хрысціянскія працоўныя атрады, маладзёны, што дапамагаюць цэрквам будавацца і парадкаваць гаспадарку... Евангельскі гурт «Добрая вестка» з бусам гукавой апаратуры, песняроўскім шматгалоссем і дачкой саліста, якая акампануе бацьку на некалькіх інструментах... Берасцейскі ксёндз з парафіянінам-падлеткам, які спявае хрысціянскі рэп...

Пастар мінскай «Царквы Ісуса Хрыста» дасылае евангельскую газету «Колокол», кнігі пра першыя крокі ў веры і ацаленне ад залежнасцяў. А вось і вядомы бард Аляксандр Чарпакоў, якога тутэйшыя бандыты памятаюць як *Чарпака*, увесь у наколках, распавядае пра свае навяртанне басам мацёрага уркі — *вернік у законе* з хрыплаватымі спевам пра грэх і нябёсы ды пяшчотнымі вачыма.

Гэта ўсё Ён. Задае табе пытанне штодня — каб цярпліва, усё жыццё, чакаць адказу.

— Назавіце доказы ўваскрасення Хрыста.

— Што значыць «Амінь»? А «Алілуя»?

— Чаму Ісус выбраў у апосталы Юду?

Ці пакідаюць па сабе гэтыя пытальнікі хоць якую кропку ў галовах асуджаных за аліменты, крадзяжы, хуліганкі, дарожна-транспартныя здарэнні і цяжкія цялесныя пашкоджанні? Беларус — чалавек глыбокі, маўчыць.

Прарыў пакуль адзін — пакаянні па п'яні.

Пасля працы, калі ў дзяжурцы ўжо ўнюхалі, далі небараку дыхнуць «у трубачку» і афармілі парушэнне рэжыму ўтрымання, сёйтой заходзіць да мяне. «Наруха» — справа сур'ёзная, раз-два — і зона, таму развагі адразу бурляць за *жыццё*.

— Паша, можна *паінцерасавацца*?

Мнуцца. Пачынаюць здалёк. Блытаюцца. Надсілу, сцяўшы зубы, наракаюць ды выціскаюць з сябе прызнанні. Спавядаюцца. Да спазмаў у горле каўтаюць крыўду — і раптам зрываюцца на рыданні.

— Бог жа ёсць, Паш... Ёсць!

Назаўтра ўжо глядзяць міма. Соромна.

Сэрца зачынена — раздражнёна, з грукатам.

А ў нядзелю прыходзяць у актавую залу зноў. Слухаюць. Так і чуеш, як варушыцца ў душах, як хоча кожны нешта спытацца ў Бога сам. І мучыцца.

І стукаецца ў сэрца Творца.

І вісіць у актавай зале пад пільным позіркам Рыгоравіча немае пытанне, нібы дым у курылцы.

Чаму, чаму беларуса, хрысціянскую душу, цярплівую, пакорлівую і глыбокую, што ные, заходзіцца адчаем і трымае, сцяўшы зубы, да апошняга, трэба так доўга і так настойліва ўгаворваць не таіцца, не баяцца, а проста ціха адказаць Богу?..

*Куплін*

# У палоне 1990-х

Ці былі ў пераможным 1991-м зробленыя памылкі, якія пасеялі насенне для 1994 і 1996-га? Рэцэнзія на кнігу **Сяргея Навумчыка «Дзевяноста першы»**.



**Зянон Пазняк выступае на мітынгу 22 мая 1991.**

На працягу ўсяго XIX стагоддзя ішлі спрэчкі пра Вялікую Французскую рэвалюцыю і Напалеона. Для жыхароў XX стагоддзя яе месца занялі падзеі 1917 года і Ленін. Не сумняваюся, што ў XXI-м большасць гістарычных дыскусій будзе прысвечана распаду СССР. Новая кніга Сяргея Навумчыка «Дзевяноста першы» — гэта ўнікальны беларускі погляд на падзеі, якія прывялі Беларусь да незалежнасці.

Мяжа 1980-х і 1990-х стала адной з цэнтральных тэм у айчыннай мемуарыстыцы. Сваю версію падзей падалі ва ўспамінах кіраўнікі краіны таго часу: спікеры Вярхоўнага Савета Мікалай Дзямянцей, Станіслаў Шушкевіч і Мечыслаў Грыб, прэм'ер-міністр Вячаслаў Кебіч, лідар апазіцыі Народнага Фронту Зянон Пазняк, міністры спраў замежных (Пятро Краўчанка) і ўнутраных (Уладзімір Ягораў), дэпутаты Вярхоўнага Савета Васіль Лявонаў, Пётра Садоўскі і мінскага гарадскога Савета (Галіна Пазняк)...

Але Сяргей Навумчык у гэтым шэрагу стаіць асобна. Ён не толькі запісаў уласныя мемуары, але і паслядоўна збіраў і збірае дакументы, адгукаецца, бадай, на ўсе публікацыі і выказванні, якія датычаць разгляданага перыяду, вядзе дыскусіі ў інтэрнэце.

Погляды аўтара ўжо знаходзілі адлюстраванне ў папулярных кнігах «Сем гадоў Адраджэння, альбо Фрагменты найноўшай беларускай гісторыі (1988—1995)» (2006) і «Дэпутаты Незалежнасці» (напісана ў суаўтарстве, 2010).

У пэўнай ступені «Дзевяноста першы» ўспрымаецца як працяг і пашыраны варыянт названых выданняў (у тэксце выкарыстаны значныя фрагменты з іх). З другога боку, гаворка ў апошніх ішла пра больш шырокі перыяд, а тут разглядаюцца падзеі аднаго года, хай сабе з праекцыяй у будучыню.

Структура выдання простая: у ёй 12 раздзелаў, назвы якіх адпавядаюць месяцам года. Частка з іх падзелена на інтрыгоўныя падраздзелы (напрыклад, «Gorby ў Менску», «Смак перамогі, альбо Як Славу КПСС хавалі», «Як мы спусцілі з лесвіцы Жырыноўскага»). Паколькі ў аснове структуры «Дзевяноста першага» — храналагічны прынцып, гэта пазбаўляе тэкст дублявання і шматразовых паўтораў інфармацыі (што назіраецца ў «Дэпутатах...»).




**Сяргей Навумчык. Дзевяноста першы.** — Радыё «Свабода», 2013. — 536 с., іл. — (Бібліятэка Свабоды. XXI стагоддзе).

## Мікалай II лёгка мяняецца на Дзямянцея (бязвольныя асобы), Стальпін — на Кебіча (гаспадарнікі з прэтэнзіяй на моцнасць), Ленін — на Пазняка (харызматычныя лідары), а БНФ — на рэвалюцыянераў

Навумчык — выдатны аўтар. У яго добры стыль, ён умее трымаць увагу і напружанне. Гэта звышчытэльны тэкст. 500-старонкавы фаліянт прачытваецца на адным дыханні.

Каштоўнасць кнігі Навумчыка для гісторыкаў, якіх бы палітычных поглядаў яны ні трымаліся, неаспрэчная. Аўтар уключыў у выданне багата дакументаў: выступленні з сесіі, якія цяпер адсутнічаюць у вольным доступе; публікацыі СМІ, шукаць якіх пажадае не кожны; запісы кулуарных пасяджэнняў і размоў, якія, хутчэй за ўсё, нікім, акрамя Навумчыка, не фіксаваліся.

Названых «плюсаў» «Дзевяноста першага» мусіць з лішкам хапіць для таго, каб назваць выданне сапраўдным айчынным бестселерам, а аўтару — падзякаваць за тытанічную працу.

Калі чытаеш мемуары, якія напісалі ўдзельнікі тых падзей (як беларускія, што названыя вышэй, так і савецка-расійскія: М.Гарбачоў, А.Якаўлеў, Я.Лігачоў, Б.Ельцын, А.Сабчак), заўсёды цікава, ці здольны аўтар без абраз ацэньваць сваіх палітычных праціўнікаў. А таксама, ці ўмее прызнаваць унёсак сваіх праціўнікаў у развіццё грамадства, а таксама ўласныя памылкі.

Што ў гэтым сэнсе ў «Дзевяноста першым»? Нават у раздзеле, дзе С. Навумчык называе В. Кебіча супрацоўнікам або КДБ, або ГРУ, што, на мой погляд, выглядае не вельмі пераканаўча, яго ацэнкі не выходзяць за межы прыстойнасці.

А вось сітуацыя з двума іншымі крытэрамі выглядае не такой адназначнай.

Давайце зробім эксперымент. Возьмем 1905 год, калі ў Расійскай імперыі адбывалася рэвалюцыя. Атрымліваецца парадокс: прозвішчы яе ўдзельнікаў лёгка змяняюцца на нашых сучаснікаў. Мікалая II на Дзямянцея (бязвольныя асобы), Стальпіна — на Кебіча (гаспадарнікі з прэтэнзіяй на моцнасць), Мілюкова — на Шушкевіча (інтэлігент, які імкнецца трымацца ў цэнтры), Леніна — на Пазняка (харызматычныя лідары), а Беларускі Народны Фронт — на рэвалюцыянераў.

Савецкім гісторыкам была ўласцівая дастаткова просталінейная інтэрпрэтацыя падзей 1905 года. Чорнае — белае, ворагі — сябры. Тая ж праблема ў нечым акрэсліваецца і ў кнізе «Дзевяноста першы».

Адлюстраванне падзей надзвычай нагадвае бальшавіцкую схему (толькі паказаную ў люстэрку). Маўляў, існуюць два класы: прыгнятальнікаў (іх увасабляе камуністычная наменклатура, якая трымае ўладу) і прыгнечаных (просты народ). Авангардам, які імкнецца вызваліць апошніх, з'яўляецца БНФ, але яму перыядычна перашкаджаюць як камуністы, так і лібералы, якія гатовыя на кампрамісы з рэжымам дзеля ўлады.

Заўважу, што ацэнка прыхільнікаў дэмакратычнага лагера, якія не ўваходзяць у БНФ, таксама вагаецца (асабліва гэта бачна на прыкладзе Станіслава Шушкевіча). Калі яны падтрымліваюць ініцыятывы Фронту, дык выступаюць з прагрэсіўных пазіцый. Калі перашкаджаюць — дэманструюць уласную абмежаванасць.

Фактычна, праз усе старонкі кнігі праходзіць (дзе відавочны, а дзе прыхаваны) аўтарскі месідж: БНФ — лепшы за ўсіх, Зянон Пазняк — лідар нацыі, менавіта БНФ на чале з Пазняком, які карыстаўся падтрымкай народа, прынеслі беларусам незалежнасць.

Катэгарычны і аднабаковы падыход да гісторыі мае права існаваць тады, калі аўтарам працы з'яўляецца дзейны палітык, які адстойвае сваю праграму і змагаецца за галасы выбарцаў. У такіх выданнях — не месца ваганням ці прызнанням ранейшых памылак.

А вось калі паміж сучаснасцю і падзеямі, якія апісваюцца ў выданні, праходзіць вялікая часавая дыстанцыя, аўтар мусіць узняцца над мінулым і ацаніць яго без празмерных эмоцый. Сяргей Навумчык сапраўды жыве 1990-мі гадамі, думае тагачаснымі катэгорыямі. Гэта надзвычай дапамагае Навумчыку-мемуарысту. Але нежаданне паглядзець на тыя падзеі з вышыні гадоў стрымлівае Навумчыка-аналітыка.

1991 год быў найбольш паспяховы для Беларусі, нацыянальнага руху, калі перамогі ішлі адна за адной. Прадстаўнікі Народнага Фронту былі сапраўднымі героямі. Той смелы, рэвалюцыйны рух накіроўваў краіну на шляху да незалежнасці.

Але тады ж, у 1991-м, ужо акрэсліліся памылкі, стала заўважацца тое дактрынёрства, якія асабліва выявяцца ў 1992—1994, ва ўмовах, калі грамадскія чаканні ад Народнага Фронту зменшыліся. Няправільны аналіз балансу сіл у грамадстве, нерэалістычныя ацэнкі таго, як будзе развівацца сітуацыя ў эканоміцы ў выніку дэзынтэграцыі СССР, і неразуменне будучага ўплыву гэтых працэсаў на палітычныя погляды беларусаў (у прыватнасці, на пазіцыю палітычнага класа і топ-менеджараў) прывядуць да таго, што Народны Фронт не здолее перашкодзіць Аляксандру Лукашэнку прыйсці да ўлады.

У адрозненнне ад Украіны, Беларусь выбрала еўраазіяцкую, а не еўрапейскую мадэль. У 1994-м і 1996-м падавалася, што плынь падзей ужо не стрымаць. У іншых публікацыях Сяргей Навумчык лічыць фатальнымі рашэнне Шушкевіча дазволіць Лукашэнку ўзначаліць антыкарупцыйную камісію, а таксама жаданне Кебіча перайсці да прэзідэнцкай мадэлі (у 1993 годзе). Ён адхіляе магчымасць таго, што іншая тактыка і стратэгія апазіцыі маглі б змяніць ходу гісторыі.

Ці існаваў у 1991-м момант, калі гісторыя магла павярнуцца іначай, каб 1994-ы ніколі не адбыўся? На гэтае пытанне Сяргей Навумчык вам не адкажа. Але той, хто хоча сфармуляваць свой пункт гледжання, мусіць прачытаць «Дзевяноста першы». Гэта кніга, якая належыць да катэгорыі «Прачытаць абавязкова».

**Андрусь Вяткоўскі**

*P.S. Кнігу выдала Беларуская служба радыё «Свабода». Калі хто не мае магчымасці атрымаць яе, дык зможа прачытаць па частках на старонках «Народнай волі».*

*Кніга Сяргея Навумчыка настолькі важная, што мы хацелі б апублікаваць некалькі рэцэнзій на яе.*

## ФУТБОЛ

### «Стандард» — «Мінск»

**29 жніўня ў плэй-оф Лігі Еўропы** сустрэнуцца льежскі «Стандард» і «Мінск». Гульня пройдзе ў Бельгіі. Першую сустрэчу супернікі выйгралі 2:0. Знайсці трансляцыю можна будзе ў інтэрнэце.

### Тур 22

Сканчваецца першы этап Чэмпіянату Беларусі па футболе. Пасля 1 верасня каманды падзеляцца на дзве шасцёркі, адна з якіх будзе змагацца за медалі, а другая — за выжыванне. **1 верасня** гуляюць:
«Дынама» (Брэст) — «Нафтан» (Наваполацк);
«Дняпро» (Магілёў) — «Шахцёр» (Салігорск);
«Мінск» — «Гомель»;
БАТЭ (Барысаў) — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна);
«Нёман» (Гродна) — «Дынама» (Мінск);
«Белшына» (Бабруйск) — «Славія» (Мазыр).

## ІМПРЭЗЫ

### NAVINKI-2013

**У Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва (пр.Незалежнасці, 47)** ад 31 жніўня да 1 верасня пройдзе 15-ы фестываль NAVINKI-2013 (пачатак а 14-й), 2 верасня фэст працягнецца на возеры Вяча пад Мінскам (пачатак а 13-й). Беларускі глядач можа пазнаёміцца з новымі працамі мастакоў з Ірландыі, Польшчы, Італіі, Швецыі, Румыніі, Іспаніі і Беларусі.

### Рок па вакацыях

**13 верасня а 18-й у клубе «Цэнтр» (пл. Кастрычніцкая, 1; у будынку Палаца Рэспублікі)** пройдзе штогадовы фестываль беларускай музыкі «Рок па вакацыях». На канцэрце выступяць музыкі, якія гралі яшчэ на першых фестывалях, — N.R.M., «Крама», Neuro Dubel, «Палац», Кася Камоцкая. Да іх далучацца гурты, якія атрымалі папулярнасць у апошнія гады, — Re1ikt, Naka, «Змяя». Яшчэ адным сюрпрызам стане выступ расійскага рок-музыкі Вадзіма Курылёва, удзельніка гуртоў «Электрические партизаны», «Разные люди», ДДТ.

### Цукеркавы фэст Ivkon

**7 верасня а 13-й у Івянцы** — Цукеркавы фэст Ivkon. Вас чакаюць рамантычныя івянецкія легенды, шчодры рамесны кірмаш, нацыянальныя стравы, напоі ды прысмакі, рыцарскія бойкі, дэгустацыя цукерак «Івкон», жывая музыка, спевы, танцы, гульні, конкурсы, шляхецкія спрэчкі-пацехі, вечаровае фаер-шоу і вогнішча. Возьмуць удзел анімацыйны тэатр «Майстэрня ўражанняў», гурт PAWA, фольк-мэталгурт «Лютавер'е», этнадыскагурт «Вырай», вандроўны тэатрык «Гістрыён», гурт «Сёмуха», этнагурты «На таку» і этнагурт Dzivasil, гудзьбітны гурт «Літы Талер» і іншыя.







### Святло майго горада

**28 жніўня а 17-й у Мінскай гарадской ратушы** адбудзецца адкрыццё персанальнай выставы Алеся Шатэрніка «Святло майго горада». На выставе прадстаўлены работы з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, Беларускага саюза мастакоў, з калекцыі аўтара. Выстава працуе да 29 верасня.




### Адборачны канцэрт на фестываль Respublica

**Трэці год запар у Камянцы-Падольскім (Украіна)** праходзіць фестываль музыкі і стрыт-арту Respublica. 30 жніўня а 18-й у забаўляльным парку «Дрымлэнд» адбудзецца адборачны канцэрт. Возьмуць удзел Re1ikt, J-J BINGZ, Step Hall, «МУТНАЕВОКА», Exist M, Straightroads, Tim Erna. Уваход вольны.

### POVIDLO

**Фестываль этна-транс і эксперыментальнай музыкі POVIDLO** адбудзецца ў ноч з 31 жніўня на 1 верасня на адкрытай пляцоўцы спорт-цэнтра «Раўбічы». Шоу-праграма будзе складацца з пластычных і эксперыментальных тэатраў, капаэйры, трайбла, фаер-шоу ў спалучэнні з этнатрансам, чыл-аўтам і драм-н-бэйсам.

## КАНЦЭРТЫ

### Attraction

**29 жніўня а 19-й у клубе Coyote (пр.Незалежнасці, 117)** — канцэрт гітарыста Віктара Смольскага (Rage) з гуртом Attraction.

### IQ 48

**29 жніўня а 21-й у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** — канцэрт гурту «IQ 48».

### НагУаль

**30 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурту «НагУаль».

### Разбітае сэрца пацана

**6 верасня а 19-й у клубе «Цэнтр» (пл. Кастрычніцкая, 1, Палац Рэспублікі)** — гурт «Разбітае сэрца пацана».

## ВЫСТАВЫ

### Правы выцінанкі

**28 жніўня а 17-й у Малой зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** адбудзецца адкрыццё выставы народнага майстра Вольгі Бабурынай «Правы выцінанкі» (мастацкае ўвасабленне «Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека»). Выстава працягнецца да 7 верасня 2013 года.

### Мінскі час

**Ад 29 жніўня да 30 сакавіка ў Музеі гісторыі горада Мінска (Рэвалюцыйная, 10)** працуе фотавыстава Народнага фотаклуба «Мінск» «Мінскі час», на якой прадстаўлена каля 60 фотаздымкаў з відамі Мінска канца XIX — пачатку XXI стагоддзяў.

### Бачнае — Невымоўнае

**Да 14 верасня ў Вялікай зале Музея сучаснага выяўленчага мастацтва (пр. Незалежнасці, 47)** працуе выстава прац педагогаў кафедры фатаграфіі Мастацкага ўніверсітэта ў Познані «Бачнае — Невымоўнае». Фатаграфію звычайна разумеюць як медыя-сродак, што адлюстроўвае бачную рэчаіснасць. У рамках выставы «Бачнае — Невымоўнае» ўвазе гледача прапануюцца фатаграфіі, якія адыходзяць ад звычайных стэрэатыпаў.

### Кардоннае сэрца

**На выставу лялек Кацярыны Пуставалавай** «Кардоннае сэрца» запрашае Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны,5).

## ТЭАТРЫ

### 4 верасня

**Купалаўскі** — «Самотны захад»

### 5 верасня

**Купалаўскі** — «Самотны захад»
**Оперы і балета** — «Вітаўт»

### 6 верасня

**Оперы і балета** — «Вітаўт»
**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 7 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»

### 8 верасня

**Оперы і балета** — «Турандот»

## КІНО

### Паміж Сцылаю і Харыбдай

Персі Джэксан і мора пачвараў
Фэнтэзі, прыгоды
**Рэжысёр:** Тор Фройдэнталь
**У ролях:** Логан Лерман, Аляксандра Дадарыа, Брэндан Т. Джэксан, Стэнлі Тучы, Натан Філіян
ЗША, 106 хв.

Мірнае жыццё ў лагеры, створаным для ўтульнага існавання дзяцей алімпійскіх багоў, парушанае. Люк, сын Гермеса, які намагаецца адрадзіць тытана Кронаса і знішчыць нязгодных з ім паўбагоў, насылае на Лагер Паўкровак калхідскага быка. Пачвара знішчае бар'ер вакол лагера, бо чароўнае дрэва, з якога ён створаны, атручанае. Але ёсць і лекі — залатое руно, схаванае на востраве цыклопа Паліфема. Права здабыць яго атрымлівае Кларыса, дачка Арэса, але і Персі з сябрамі выпраўляюцца ў дарогу, бо ў палон да Люка трапіў яго сябар, сатыр Гровер. Люку таксама патрэбнае руно, каб ажывіць Кронаса. Хто ж завалодае ім першым?
Сіквел (чакаюцца яшчэ дзве часткі) пра паўбога Персі Джэксана працягвае расказваць пра няпростае жыццё хлопчыка і яго сяброў. Героі падраслі, але тэма адносінаў паміж дзецьмі і бацькамі не згубіла актуальнасці. Да таго ж цяпер Персі хвалюе і самавызначэнне: ці сапраўды ён той герой, што можа знішчыць Алімп або ўратаваць яго?
Асаблівую цікавасць фільм уяўляе праз вобразы, пазычаныя з антычнай міфалогіі. Тут з'яўляюцца і дзейнічаюць міфічныя істоты, створаныя з дапамогай сучасных камп'ютарных тэхналогій. Узроставы цэнз стужкі паніжае адсутнасць крывавых і любоўных сцэн.

**Настасся Уласава**

# У Еўропу з дальнабоем

Карэспандэнт «Нашай Нівы» адправілася з дальнабойшчыкам Аляксандрам у самае сэрца Італіі, каб даведацца, як жывуць і **пра што думаюць кіроўцы вялікіх машын**.

Рэйс пачынаецца на базе, дзе кіроўца атрымлівае машыну. Мы паедзем на аранжавай Volvo з зялёным тэнтам. Аляксандр кажа, што гэта адметныя колеры яго фірмы і жартаўліва называе свой грузавік «памаранчавы паравоз» (бо з двума прычэпамі).

Аляксандр парадкуецца ў лядоўні, правярае колы, паліва, тэнт, устаўляе ключ у замок запальвання. Перасякаць мяжу мы будзем у Каменным Логу, адтуль праз Польшчу і Аўстрыю плануем трапіць у Італію. Праехаць нам давядзецца больш за 5 000 кіламетраў.

### Мяжа

Мяне заўсёды палохалі гэтыя страшэнныя чэргі з фур на мяжы з Літвой: здаецца, палову часу дальнабоі толькі і робяць, што стаяць у гэтай бясконцай «калейцы». Яшчэ на пад'ездзе па рацыі чуем: «Калейка маленькая, усяго 6 кіламетраў»

Чарга ніколі не засынае. «Даволі хутка праехаць мяжу» у перакладзе з дальнабойніцкай мовы на нармальную азначае прыкладна суткі. Калі вельмі пашчасціць, можна праскочыць яшчэ хутчэй, але Аляксандр паясняе, што бліжэй да выходных на такое спадзявацца не варта.

З літоўскага боку нас сустракаюць два мужчыны ў касцюмах хімабароны і з шлангаў паліваюць колы памаранчавага паравоза чымсьці пахучым. Аляксандр нясецца кудысьці з паперкамі, вяртаецца праз паўгадзіны і выдыхае доўгачаканае «можна ехаць».

«Бадай, самае складанае ў прафесіі дальнабойшчыка — праходзіць мытню ды стаяць у калейцы. Калі едзеш, змяняецца абстаноўка, змяняюцца людзі, змяняюцца краіны. У адным месцы адпачываеш, у другім — запраўляешся».

### Аб'язджаем сталіцы

Праз сталіцы мы не праязджаем — і Варшава, і Вена, і ўсе вялікія італьянскія гарады застаюцца збоку. У кожнай машыне ўсталяваны тахометр (дальнабоі называюць яго «шайба») альбо спецыяльны чып, які запісвае ўсе рухі кіроўцы: колькі і дзе праехаў, дзе зрабіў паўзу і г.д.

Рэжым у кіроўцаў вельмі строгі: яны павінныя адпрацаваць 15 гадзін у суткі, з іх кіраваць машынай можна толькі 9 гадзін, ды два разы ў месяц — 10. Праз кожныя 4,5 гадзіны язды дальнабоі робяць паўзу. У якасці выходных падчас вандроўкі ёсць 45-гадзінны перапынак.

За другія суткі рэйса мы праехалі Літву і амаль усю Польшчу, начаваць спыніліся на стаянцы ў горадзе Цешын. Злева ад нас тонуць у цемры Карпаты, а наперадзе бачныя мяжа і гарадок Чэскі Цешын. «Але там мы прыпынімся не будзем, бо на той стаянцы могуць ноччу зліць паліва ці скрасці запаснае кола.

Усю наступную ноч мы праводзім пад грукатанне рухавікоў здаравенных машын: хтосьці ўладкоўваецца на ноч, хтосьці, наадварот, — з'язджае.

Па дарозе змяняюцца мовы дыктараў радыё, надвор'е, час сутак, а яна ніяк не сканчваецца.

«Ці адчуваеш ты сябе ў такіх вандроўках адзінокім?» — пытаюся я. Напэўна, трэба быць інтравертам ці сацыяпатам, каб працаваць у такіх умовах і мець кантакты з людзьмі толькі на запраўках ці падчас абеду ў кавярнях. «Мне не самотна, — паціскае плячыма Аляксандр. — Я прызвычаіўся і не лічу сябе адзінокім.

Я прыхіляюся лбом да бакавой шыбы і імкнуся разгледзець контуры Альпаў на гарызонце. Чым далей мы ад'язджаем ад Беларусі, тым цяплей становіцца на вуліцы.



### Платныя дарогі

Яшчэ адно адкрыццё: каб праехаць пару гадзін па аўстрыйскай дарозе, ты мусіш заплаціць 180 еўра.

## Дальнабой — гэта аднначасова залежнасць і свабода »

Падобная сістэма платных дарог цяпер ёсць і ў нас, называецца яна BelToll. Спачатку кіроўца набывае спецыяльны датчык і лепіць яго на лабавое шкло, затым карткай на запраўцы плаціць за дарогу.

Падчас язды сустракаецца шмат металічных брам, якія считваюць дадзеныя і падаюць сігналы: адзін — усё добра, можна ехаць, два — на рахунку засталося мала грошай, але ўсё яшчэ нармальна. Калі прагучала чатыры сігналы, кіроўцу штрафуюць на 1000 еўра. Таму перад кожнай брамай Аляксандр уважліва прыслухоўваецца — лішніх грошай ні ў каго з дальнабояў, зразумела, няма.

### «Італія — 150 км»

За апошнія суткі мы праехалі больш за 700 кіламетраў. Прачынаешся — і ты ў Італіі. Побач невялікі гарадок з касцёлам і мэблевай фабрыкай, а з усіх бакоў насоўваюцца горы, адчуваеш сябе, як у калодзежы.

Ідзе пяты дзень нашага рэйса, наперадзе — выходныя і стаянка ля гарадка пад назвай Горыца. Ён знаходзіцца на мяжы Італіі і Славеніі, таму з аднаго боку ён — Gorizia, а з іншага — Nova Gorica. У залежнасці ад размяшчэння вуліцы названыя таксама або на італьянскай, альбо на славенскай. На дамах вісяць шыльды кшталту «Італія — 150 м».

Побач з мястэчкам ёсць аграмадная стаянка, куды з'язджаюцца дальнабоі з усёй Усходняй Еўропы: тут і харваты, і славакі, і сербы, і баснійцы, і македонцы, і румыны. Мы сустракалі шмат украінцаў, якія па вечарах ладзілі барбекю-паці ў плаўках, і легендарных кіроўцаў з Бранска, пра якіх ходзяць жарты, што ў 90-я яны адпраўляліся ў рэйс у Італію і рэдка калі даязджалі да яе.

Мы вымушаныя спыніцца пад Горыцай на ўсе выходныя — зрабіць абавязковую 45-гадзінную паўзу.

### Карусель з дакументамі

Праца дальнабояў — не толькі сядзець за рулём, але і разбірацца са шматлікімі дакументамі. Перад тым як разгрузіцца, трэба размытніцца, прадставіць у экспедыцыю ўсе неабходныя паперы, атрымаць пячаткі, паркінг-лісты, інвойсы і шмат чаго іншага. Пасля таго як разгрузішся, кампанія часта накіроўвае на адну ці некалькі загрузак — і ўся карусель з дакументамі пачынаецца па-новаму.

На шчасце, у нас была толькі адна разгрузка на поўдні Італіі і адна загрузка ў цэнтры краіны, ля горада Фернэці. Разгрузка — працэс цяжкі і марудны, бо дальнабой сам здымае тэнт з абодвух прычэпаў і сам яго пасля вяртае на месца. Знаходзіцца пад тэнтам у 40-градусную спякоту — сапраўднае пекла. Без жартаў. Недалёка ад Балоніі ў цені было +37, хаця некалькі дзён таму ў Польшчы ішлі дажджы і было халаднавата.

## Прафесія змяняе іх саміх і фізічна, і маральна »

У Італію мы везлі неапрацаваную скуру для абутку.

### Мінусы працы

Бліжэй да канца вандроўкі сталі відавочныя ўсе мінусы працы дальнабояў: жыць у кабіне складана, бо там заўсёды не хапае месца, а восьпылу зашмат; на вуліцы спякота — сорак градусаў, а душ ёсць далёка не на ўсіх запраўках; у Гарыцыі самыя бязлітасныя ў свеце камары, якія не даюць заснуць.

Падчас вялікай абавязковай паўзы адны глядзяць у кабіне фільмы ці шпацыруюць па горадзе, а іншыя ўключаюць так званую «машыну часу»: збіраюцца невялікімі групамі і ідуць у бліжэйшую краму за танным італьянскім віном. За два дні выходных яны паспяваюць і напіцца, і выспацца, і зноў стаць цвярозымі, каб рушыць далей.

### Рамантыка і звычка

«У прафесіі трымае рамантыка толькі моладзь, — разважае Аляксандр. — Шмат каму хочацца пакатацца, паглядзець свет. Падругое, канечне, грошы, гэтая праца больш-менш прыбытковая. Калі сталееш, гадоў у трыццаць рамантыка знікае, і ў прафесіі трымае звычка...».

Мне думаецца, што не столькі грошы трымаюць гэтых мужчын у прафесіі. Дальнабой — гэта аднначасова залежнасць і свабода. Яны ўсе настолькі прызвычаіліся да дарогі, да размернага гудзення матораў, да пылу, бруду і паху дызелю, што не ўяўляюць сябе без усяго гэтага. Прафесія змяняе іх саміх і фізічна, і маральна. Бо амаль усе, хто шмат кіруе фурай, мае моцныя рукі і піўныя жываты, бараду і вусы — па жаданні.

Аднначасова такая залежнасць — свабода, імкненне адасобіцца ад быту, ад адвечнага кола: дом-праца-дом і «Ваaa-ааань, ну сходзі выкінь смецце!» Яны будуюць свой уласны быт у прасторы кабіны, часам не маюць магчымасці патэлефанаваць сям'і. У Аляксандра жонкі няма, але іншыя расказвалі, што іх каханыя неяк трываюць, затое калі дальнабой вяртаецца дадому, гэта сапраўднае свята. Кажуць, што такія паўзы робяць адносіны яшчэ мацнейшымі.

А мне падаецца, што для таго, каб быць дальнабойшчыкам, трэба і праўда быць рамантыкам і мець вялікую мужнасць аднойчы вырвацца з дому, з кампаніі сяброў у двары, каб прамяняць дамашнія абеды і ўтульны ложак на пыл і прыдарожныя забягалаўкі. І быць гатовым, што так пройдзе ўсё жыццё.

**Настасся Храловіч**








ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Такі надпіс карэспандэнты «НН» пабачылі ў Жлобіне, які вядзе падрыхтоўку да «Дажынак-2013».



НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

На хутары «Шаблі» прайшоў традыцыйны музычны фэст «Вольнае паветра». Госці мелі магчымасць паставіць намёты, пазмагацца ў кіданні кізякоў, узяць удзел у занятках ёгі, паваляцца ў гамаку ці наведаць адмысловы святочны кірмаш. Ва ўсіх быў выдатны настрой.



Хатняя птушка ў кітайскай правінцыі Гуанчжоу ратуецца ад паводкі пасля тайфуна «Утор». Сотні тысяч кітайцаў страцілі жыллё.



У Слуцку ўсталявалі помнік «Адраджэнне Слуцкага пояса». Памятны знак з'явіўся на набярэжнай, акурат каля фабрыкі «Слуцкія паясы».



## Анекдоты і жарты

* * *

Баўмгертнер абвінавачваецца ў «падрыхтоўцы масавых беспарадкаў» на калійным рынку.

* * *

Крымінальная хроніка: прэм'ер-міністрам Беларусі запланаваны шэраг сустрэч...

* * *

Парасон — гэта абярэг ад дажджу. Калі ён з вамі, то дажджу не будзе.

* * *

— Нарэшце вывела тлустую пляму на канапе.
— Як?!
— Развялася!

* * *

Жонка папрасіла норку. Тры дні капаў, спадзяюся, што спадабаецца.

* * *

— Фіма, навошта ты ўзяў новы пакецік чаю?
— У старым нітачка парвалася.
— А што, рук прышыць няма?

* * *

Не забывайцеся пра фэн-шуй. Калі вам здаецца, што ў пакоі прысутнічаюць злыя сілы, то пастаўце ў цэнтры пакоя крэсла, сядзьце на яго тварам да поўначы і пачынайце цверазець.

* * *

Жанчына на прыёме ў лекара:
— Доктар, чаму вы сказалі мне высунуць язык, а самі на яго нават не глядзіце?
— Бо ў цішыні працей знаёміцца з гісторыяй вашай хваробы.

* * *

Дасведчаны прадавец кавуноў адным шчаўчком па галаве можа вызначыць, ці гатовы яго сын да экзамену.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У вёсцы Трайбэнак Ашмянскага павета** гаспадар Пранціш Маркоўскі, 60-гадовы чалавек, пасля буры выйшаў на сенажаць і ўбачыў, што ўсё сена зглумлена вадой, з гора, вярнуўшыся дадому, падрэзаў сабе нажом горла. Дачка скочыла і вырвала з рук яго нож, але ўсё ж такі ён крэпка пакалечыўся. Непрытомнага Маркоўскага адвязлі ў бальніцу ў Івянец.

**«НН». №33. 1913.**

**Сэкс тут і цяпер.** Калі сэкс-свабода робіцца модай і абавязкам, яна таксама ператвараецца ў форму няволі, прытым вельмі жорсткай. Паола Каэльё добра выказваецца пра гэта ў сваёй новай кнізе «Адзінаццаць хвілінаў» (таго самага): сапраўдны сэкс не мае нічога супольнага з тым, што нам прапануюць у працэсе яго піяр-кампаніі. Які ты, сучасны сэкс? Вечная тэма новага нумара «НН».

**«НН». №32. 2003.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8010. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 27.08.2013.
Замова №3465.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13032